◂ № 31 (352) ◂ 23 жніўня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**АЛЕСЬ МІХАЛЕВІЧ**

Стар. 4

**СВІННІ-ПАРТЫЗАНЫ**

Прадстаўнікі прыватных гаспадарак, якія сабраліся ў Мінску, каб стварыць свой штаб па барацьбе з чумой, моцна сумняваюцца ў тым, што ў дзяржавы ёсць нейкі план па барацьбе з АЧС

Стар. 4–5

**АСАНЖ ХОЧА СТАЦЬ СЕНАТАРАМ**

Першыя крокі створанай Джуліянам Асанжам партыі WikiLeaks Party сапсавалі яго імідж паслядоўнага дэмакрата і абаронцы прынцыпаў празрыстасці ў палітыцы. Але не пазбавілі яго мары стаць сенатарам

Стар. 12

**ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ МАФІЯ. ВУЧАНЬ АЛЬ КАПОНЭ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПАВЕЛ КРЫНЧЫК: ВЯЗЕНЬ ДВУХ РЭЖЫМАЎ**

Нарыс Сяргея Чыгрына

З НАГОДЫ

# КДБ ПАДЗЯЛІЎСЯ З КДК

Сяргей ПУЛЬША




**Камітэт дзяржкантролю, «галоўнае пудзіла» прадпрымальнікаў і бізнэс-структураў, набыў новыя паўнамоцтвы. Зараз ён будзе адказваць за вялікую частку нацыянальнай бяспекі. Адпаведны ўказ №360 Аляксандр Лукашэнка падпісаў 15 жніўня.**

Раней Камітэт дзяржкантролю меў права кантраляваць дзейнасць суб'ектаў гаспадарання на прадмет выканання імі дзеючага заканадаўства, якое забяспечвае абарону правоў спажыўцоў, бяспеку жыцця і здароўя насельніцтва, навакольнага асяроддзя, а таксама абарону эканамічных інтарэсаў дзяржавы. Згодна з унесенымі зменамі, ад гэтага часу КДК будзе кантраляваць і выкананне заканадаўства па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі.

Так, напрыклад, з гэтага часу КДК зможа «прыпыняць ці забараняць вытворчасць (рэалізацыю) тавараў (выкананне работ, аказанне паслуг) у выпадку выяўлення парушэнняў патрабаванняў заканадаўства па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі». У выпадку, калі будзе выяўлена парушэнне заканадаўства па забеспячэнні нацыянальнай бяспекі, КДК здолее нават прымаць рашэнне «аб прыпыненні (забароне) дзейнасці суб'екта, цэхаў (вытворчых участкаў), абсталявання, эксплуатацыі транспартных сродкаў».

Пакуль што КДК у нашай краіне меў імідж выключна ўплывовай, але проста «фінансавай паліцыі». Яго галоўным сектарам былі эканамічныя злоўжыванні. І, падаецца, нідзе ў свеце фіскальныя органы не былі надзеленыя паўнамоцтвамі вырашаць праблемы нацыянальнай бяспекі.

Улічваючы тое, што паняцце «нацыянальная бяспека» ў Беларусі занадта размытае, КДК займеў вельмі шырокія паўнамоцтвы. У сучасным эканамічным становішчы любыя эканамічныя пралікі могуць падпадаць і пад азначэнне «пагроза нацыянальнай бяспецы». Але раней гэтымі пагрозамі займаўся КДБ, і толькі. Наколькі гэтыя змены паўплываюць на дзейнасць КДК?

Зразумела, што больш цесна з Камітэтам дзяржкантролю давялося стасавацца прадпрымальнікам. Але для іх гэтая навіна пра пашырэнне паўнамоцтваў КДК сталася ледзьве не шараговай навіной сярод астатніх. Прыкладам, лідар рэспубліканскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва» Анатоль Шумчанка кажа, што яму ад гэтых навіны вядзенняў ні горача і ні холадна. Маўляў, і без КДК любы кантралюючы орган мог накласці на прадпрымальнікаў вялікія штрафы альбо сканфіскаваць тавар, калі размова ідзе аб гандлі. Альбо прыпыніць дзейнасць прадпрыемства, альбо зачыніць яго, калі размова тычыцца вытворчасці. Адзінае, што калі за справу браўся КДК, тады ўжо было вядома: непрыемнасцяў не пазбегнуць. Гэтыя маглі знішчыць любы бізнэс за любую правіннасць.

У КДК і без гэтага было дастаткова рычагоў уздзеяння. Наданне ж новых правоў гэтаму органу Шумчанка тлумачыць толькі адным: сярод сілавых структураў Беларусі пачаўся новы перадзел сфераў уплыву. «Відавочна, што гэта нейкая ўнутрывідавая прыхаваная барацьба ў саміх сілавых структурах і ведамствах. Я думаю, што там адбываецца пэўны перадзел сфер уплыву паміж той ці іншай арганізацыяй, якія хочуць мець кантроль за той ці іншай сферай народнай гаспадаркі», — адзначыў Шумчанка.

Той жа думкі прытрымліваецца і былы следчы пракуратуры, а зараз кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак. Па яго словах, наданне КДК паўнамоцтваў у галіне абароны нацыянальнай бяспекі, якія традыцыйна належалі КДБ, скіраванае не столькі на пашырэнне ролі КДК, колькі на змяншэнне ўплыву структураў КДБ.

Сапраўды, КДБ у грамадстве не выклікае ўжо нейкую жудасць альбо боязь. Хутчэй, рэакцыя на тры раней грозныя літары — кпіны альбо смех. КДБ за апошні час так «аблажаўся» ў шматлікіх справах, што далей, здаецца, няма куды. Праваленая справа аб «плюшавай бамбардзіроўцы» ў ноч з 3 на 4 ліпеня 2012 года. Суд над «шпіёнам» Гайдуковым ператвараецца ў такі фарс, якога не здолеў прыхаваць нават закрыты судовы працэс. У грамадства дагэтуль застаюцца пытанні па справе тэракта ў мінскім метро ў 2011 годзе: прынамсі, шмат людзей лічаць не даказанай віну Канавалава і Кавалёва, а гэтую справу ад пачатку вёў КДБ. Зараз у КДБ знаходзіцца новы фігурант — ксёндз Уладзіслаў Лазар. Прычым невядома, калі яго затрымалі, за што, дзе ён сядзіць, што яму інкрымінуецца. У сувязі з гэтым праваабаронцы ўзгадваюць 1937 год, калі быў чалавек, прыехала машына — і няма чалавека, як і не было.

Магчыма, Аляксандру Лукашэнку проста надакучылі скандалы з КДБ. І ён вырашыў такім своеасаблівым чынам пакараць чэкістаў за непрафесіяналізм. Сапраўды, за правалы КДБ павінен быў хтосьці адказаць. Адказала, у выніку, усё ведамства цалкам.

Вельмі цікавы нюанс і ў тым, што КДБ прымусілі падзяліцца найбольш «хлебнымі» паўнамоцтвамі ў сферы дзяржбяспекі, — менавіта «гаспадарчым» сектарам. Калі паглядзець на навіны апошніх месяцаў, звязаныя з КДБ, то пабачым, што Камітэт дзяржбяспекі найбольш паспяхова дзейнічае зараз у антыкарупцыйнай сферы: гэта і справа «Белкаапсаюза», і «будаўнічае хабарніцтва», напрыклад, справа будкампаніі «Антасам», у выніку якой вынята 18 кілаграмаў золата, і справа крадзяжу асфальту для МКАД. Карацей, у прынцыпе, тое, чым павінен займацца менавіта КДК.

Можа, Аляксандр Лукашэнка вырашыў разгрузіць КДБ ад «не ўласцівых яму справаў», каб кантора магла больш эфектыўна расследаваць менавіта тыя справы, для якіх яна і прызначаная? Гэта цалкам магчыма. Тым больш, што, на думку Волчака, некаторыя колы краіны знаходзяцца на мяжы «грандыёзнага шухеру».

«Лукашэнка не раз выказваўся ў тым ключы, што «бедныя беларусы» ездзяць па Мінску на шыкоўных іншамарках ды будуюць прыўкрасныя катэджы пад сталіцай. Па маіх дадзеных, яшчэ ў 2008 годзе КДК негалосна праверыла катэджы пад Мінскам і выявіла каля паўтары тысячы супердарагіх. Магчыма, зараз прыйшоў час камусьці расплачвацца за сытае і бяспечнае жыццё», — мяркуе Волчак.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЫХАЎ. ПІКЕТ СУПРАЦЬ ЗАМЕЖНЫХ ВАЙСКОВЫХ БАЗАЎ

**Старшыня Быхаўскай раённай арганізацыі Партыі БНФ, пісьменнік Сяргей Антонаў 19 жніўня падаў у мясцовы райвыканкам заяўку на правядзенне пікету супраць размяшчэння ў Беларусі замежных вайсковых баз.**

Сяргей Антонаў просіць райвыканкам дазволіць правесці пікетаванне 8 верасня ў быхаўскім парку Перамогі, які знаходзіцца непадалёк ад цэнтра горада.

«Я мэтанакіравана ўказаў у якасці месца правядзення масавага мерапрыемства парк Перамогі, бо раней мясцовыя чыноўнікі адмаўлялі мне ў правядзенні пікетаванняў на той падставе, што, быццам бы, я ўказваў у заяўках месцы, якія знаходзяцца побач з адміністрацыйнымі будынкамі, — распавядае Сяргей Антонаў. — Мне будзе цікава паглядзець, ці дазволяць яны правесці пікет зараз. У «БРСМаўцаў» і «беларусістаў» ніякіх праблем з правядзеннем масавых мерапрыемстваў у Быхаве чамусьці не ўзнікае, праводзяць яны іх у любым месцы. Я вельмі адмоўна стаўлюся да размяшчэння ў Беларусі замежнай вайсковай базы, яна нам сто гадоў не патрэбная. У Быхаве шмат гадоў размяшчалася база марской авіяцыі, і гэта не прынесла гораду ніякай карысці. Пасля таго, як вайскоўцы сышлі, яны пакінулі гэтую базу ў дрэнным стане: усе камунікацыі гнілыя, дабіты «да ручкі» асфальт. Жыхарам Быхава тыя самалёты не давалі спаць па начах, ад іх рову шыбы ў вокнах выляталі. І парадку асаблівага ў вайсковай частцы не было. У горадзе да гэтага часу добра памятаюць выпадак, калі ў 1991 годзе матросы-дэзерціры расстралялі каравул. Замежныя салдаты і самалёты нашай краіне не патрэбныя, у нас ёсць свая ўласная армія і авіяцыя, якія павінна выконваць задачу па абароне краіны».

Нагадаем, што на нарадзе па пытаннях будаўніцтва і развіцця Узброеных сіл краіны 20 жніўня Аляксандр Лукашэнка даручыў прыступіць да практычнай рэалізацыі дамоўленасцяў з Расіяй у галіне авіяцыі і супрацьпаветранай абароны.

**spring96.org**

### БРЭСТ. УЛАДЫ АДМОВІЛІСЯ РЭГІСТРАВАЦЬ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «БЕРАСЦЕЙСКІЯ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ДЭМАКРАТЫ»

**Як вынікае з адказу галоўнага ўпраўлення юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама, падставай для адмовы з'яўляецца тое, што назва арганізацыі на рускай і беларускай мове адрозніваецца.**

Паводле намесніцы начальніка гэтага ўпраўлення Ларысы Баландзінай, якая падпісала афіцыйны ліст, назва «Берасцейскія хрысціянскія дэмакраты» на беларускай мове не адпавядае назве «Брестские христианские демократы» на рускай. Пры гэтым скарочаную назву (ГА «БХД») заснавальнікам арганізацыі трэба было ўзгадняць з установай, якая займаецца рэгістрацыяй.

Акрамя таго, чыноўніца аблвыканкаму заўважае, што «назва аб'яднання не змяшчае пазнакі на характар дзейнасці аб'яднання», што нібыта з'яўляецца парушэннем артыкула 12 Закона РБ «Аб грамадскіх аб'яднаннях». Іншых заўваг галоўнае ўпраўленне юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама не мае, але палічыла, што прэтэнзіі да назвы маюць непераадольны характар, таму арганізацыі і адмовілі ў рэгістрацыі.

Па словах кіраўніка аргкамітэта «Берасцейскіх хрысціянскіх дэмакратаў» Зміцера Шурхая, нежаданне ўладаў надаць легальны статус такому грамадскаму аб'яднанню даволі прадказальнае, тым не менш выклікала цікавасць аргументацыя чыноўнікаў, бо ўсе дакументы былі падрыхтаваныя абсалютна бездакорна.

**Паводле прэс-службы БХД**

### БАРАНАВІЧЫ. ВЯРНІЦЕ ШЫЛЬДУ Ў ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ

**Збор подпісаў за вяртанне на будынак школы шыльды ў гонар паўстанцаў ініцыявала Баранавіцкая філія Таварыства беларускай мовы пасля таго, як грамадскасць заўважыла, што шыльда знікла.**

Як распавёў сябра Рады Руху «За Свабоду», кіраўнік Баранавіцкай арганізацыі ТБМ Віктар Сырыца, у 1993 годзе Мілавідскай сярэдняй школе надалі імя Аляксандра Лянкевіча — кіраўніка аб'яднаных атрадамі паўстанцаў 1863 года. Тады на будынку павесілі адпаведную шыльду, але падчас рамонту школы яе знялі і пасля «забылі» вярнуць на месца. Магчыма, так здарылася таму, што Кастусь Каліноўскі для сённяшніх уладаў ператварыўся з героя ў не вельмі папулярнага гістарычнага персанажа.

Тым не менш, Віктар Сырыца хоча дамагчыся, каб на 150-годдзе паўстання Каліноўскага адбылося вяртанне шыльды ў гонар паўстанцаў на будынак сярэдняй школы.

«У Мінску нядаўна ўсталявалі шыльду ў гонар паўстанцаў. Мы натхніліся гэтым поспехам і вырашылі дамагацца вяртання памятнай дошкі ў вёсцы Мілавіды Баранавіцкага раёну. Сёлета адзначаецца юбілей паўстання 1863 года, і мы мусім памятаць пра змагароў за волю Бацькаўшчыны, а не губляць памятныя дошкі», — распавёў сябра Рады Руху «За Свабоду».

Да збору подпісаў, паводле Віктара Сырыцы, будуць падключаныя сябры Руху «За Свабоду» з Баранавічаў, Пінска, Бярозы, Івацэвічаў.

**Паводле рух.by**

---

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ШЭСЦЬ АРГУМЕНТАЎ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

**20 жніўня ў сеціве з'явіўся першы фільм з цыклу «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».**

Праваабаронцы і грамадскія дзеячы, абвінавачваемыя і іх сваякі звяртаюць увагу на недасканаласць судовай сістэмы, наяўнасць катаванняў у беларускіх турмах, адсутнасць прэвентыўнага эфекту смяротнага пакарання. І заклікаюць дзяржаву адмовіцца ад найвышэйшай меры пакарання. Рэжысёр фільма — Сяргей Ісакаў.

Першы фільм прысвечаны тэме незваротнасці смяротнага пакарання — магчымасць судовай памылкі. Можна напрыклад рашэння суда забіць невінаватага чалавека, але ўваскрэсіць яго немагчыма. У фільме разглядаюцца прыклады рэальных спраў, за якія пакаралі або спрабавалі пакараць смерцю невінаватых людзей.

У другім фільме глядач даведаецца пра тое, што ў людзей, якія здзяйсняюць смяротнае пакаранне, дэфармуецца псіхіка: пазбаўляць чалавека жыцця — вялікі стрэс. Дзяржава плаціць катам грошы за забойствы.

Трэці фільм прысвечаны маральнаму аспекту: чалавек не мае права забіраць жыццё іншага чалавека, забойства — не ёсць правасуддзе.

Апроч таго, смяротнае пакаранне не папярэджвае новыя злачынствы. Неэфектыўнасць смяротнага пакарання: яго наяўнасць не зямншае колькасць цяжкіх злачынстваў. І наадварот — у краінах, дзе адмененае смяротнае пакаранне, менш злачынстваў. І гэта чацвёрты аргумент за адмову ад найвышэйшай меры пакарання.

У краінах з дыктатарскім рэжымам смяротнае пакаранне можа выкарыстоўвацца для расправы з палітычнымі апанентамі, а таксама для знішчэння сведкаў злачынства ўладаў. Гэтай тэме прысвечаны пяты фільм з цыклу.

Смяротнае пакаранне — гэта яшчэ і катаванне для сваякоў пакаранага — у Беларусі цела расстралянага не выдаецца для пахавання сваякам, месца пахавання застаецца таямніцай, у пасведчанні аб смерці расстралянага ў графе «прычына смерці» ставіцца прочыгрк. Пра гэта — у апошнім фільме цыклу.

**spring96.org**

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## ЛІДАРАЎ «ГЕЙБЕЛАРУСІ» ВЫКЛІКАЛІ НА ГУТАРКУ

**16 жніўня намеснік старшыні праваабарончага праекту «ГейБеларусь» Максім Дзмітрыеў быў выкліканы ва Упраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі МУС. Разам з ім ад БХК прысутнічала праваабаронца Наталля Манькоўская.**

Гутарку з ЛГБТ-актывістамі праводзілі старшы оперупаўнаважаны па АУС Павел Грамузаў, намеснік начальніка другога аддзела Упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС палкоўнік міліцыі Уладзімір Емяльянаў і чалавек у цывільным, які катэгарычна адмовіўся прадстаўляцца, але якога П.А. Грамузаў называў імем Дзіма.

Ніякіх пратаколаў не вялося. Пачалася размова з пытанняў аб праваабарончым праекце «ГейБеларусь», аб планах арганізацыі. На ўсе гэтыя пытанні Максім Дзмітрыеў адмовіўся адказваць у адпаведнасці з арт. 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым супрацоўнік міліцыі не забыўся нагадаць пра тое, што ў Крымінальным кодэксе існуе артыкул за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Затым запыталіся пра старшыню Праваабарончага праекта «ГейБеларусь» Сяргея Андросенку.

Даволі хутка тэма гутаркі змянілася на парнаграфію, педафілію, гвалт непаўналетніх. Актывістам спрабавалі растлумачыць, што расце колькасць злачынстваў у дачыненні да непаўналетніх і што пераважная частка такіх злачынстваў здзяйсняецца прадстаўнікамі ЛГБТ.

Актывісты папрасілі азнаёміць іх з канкрэтнымі лічбамі злачынстваў, здзейсненымі прадстаўнікамі ЛГБТ. Лічбы назвалі і сказалі, што яны ёсць на сайце mvd.gov.by: усяго 76 злачынстваў (распаўсюд парнаграфіі з удзелам непаўналетніх і гвалт) і 33 з іх учынены ЛГБТ.

Актывістам патлумачылі, што ўсякія публічныя згадкі пра геяў вядуць да таго, што моладзь «прапагандуецца», і «статыстыка» пагаршаецца. Менавіта з-за пагаршэння статыстыкі злачынстваў, учыненых ЛГБТ, гэты аддзел і звярнуў увагу на публікацыю на AUTO.TUT.BY і Максіма Дзмітрыева.

«Вось Сяргей з'ехаў і вам раім», — параіў актывістам чалавек у цывільным. Таксама параілі «не высоўвацца», «не асвятляць» і «не прыцягваць увагу да ЛГБТ». Зрэшты, супрацоўнікі міліцыі не змаглі адказаць на заўвагу Максіма Дзмітрыева аб тым, што менавіта яны прыцягнулі ўвагу да бяскрыўднай гутарцы аб аўтамабілях, у якой не было абмеркавання ні арыентацыі Максіма, ні дзейнасці арганізацыі.

«Калі людзі, нават непаўналетнія, да вас самі звяртаюцца — калі ласка, дапамагайце, абараняйце іх інтарэсы. Але мы супраць таго, каб вы сваю дзейнасць рэкламавалі, — была дадзена такая рэкамендацыя з боку супрацоўнікаў «наркакантролю» для дзейнасці праваабарончага праекту «ГейБеларусь». — Мы разумеем, што такія людзі ёсць. Але мы не дазволім вам хадзіць са сцягамі па вуліцах».

Усяго гутарка працягвалася крыху больш за гадзіну. Намеснік старшыні праваабарончага праекту «ГейБеларусь» Максім Дзмітрыеў лічыць, што «крымінальныя паводзіны аднаго прадстаўніка ЛГБТ-супольнасці не могуць служыць абмежаваннем грамадзянска-палітычных правоў усёй ЛГБТ-супольнасці і апраўдання пераследу ЛГБТ-актывістаў».

**Паводле spring96.org**

---

ПАЛІТВЯЗНІ

## СТАТКЕВІЧ ПАЧАЎ АТРЫМЛІВАЦЬ ЛІСТЫ

**Да экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча нарэшце пачалі даходзіць віншаванні з днём нараджэння і іншыя лісты, паведамляе жонка палітыка Марына Адамовіч.**

Раней пасланні амаль цалкам блакаваліся.

Статкевічу перадалі толькі дзве віншавальныя паштоўкі, хоць іх было паслана не менш тысячы, кажа жонка Марына Адамовіч. Зняволены палітык 12 жніўня адзначыў сваё 57-годдзе.

«Мабыць, пасля таго, як я агучыла сітуацыю з ліставаннем. Вельмі наіўна было стварыць у зняволенага ўражанне, што яго ўсе на свеце пакінулі, бо так ці інакш праўда ж даходзіць. Зараз ён пачаў атрымоўваць лісты. І цягам апошняга тыдня атрымаў іх каля сотні», — лічыць Марына Адамовіч.

Таксама Марына Адамовіч распавяла, што Мікалай Статкевіч у апошнім лісце напісаў, што зараз у яго ўжо няма праблем са здароўем. Раней паведамлялася, што ў зняволенага палітыка раптам падняўся ціск. Ён нават страціў прытомнасць у камеры. А медычную дапамогу яму аказалі марудна і несвоечасова.

**Паводле Радыё «Рацыя»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У КАГО ЁСЦЬ ГРОШЫ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На фоне стагнацыі беларускай эканомікі нейкія рэчы выглядаюць вельмі дзіўна. Здавалася б, і грошай у нас няма, і пазыкі аддаваць трэба, і валюту ўзяць няма адкуль, але… Але ў той жа час мы знаходзім грошы на незразумелыя праекты. Ідзе мадэрнізацыя, будуць «Дажынкі», адбудоўваецца да іх Жлобін, а ў Слуцку ўсталявалі помнік Адраджэнню. Пакуль што толькі «Адраджэнню Слуцкага пояса», але ж знайшліся грошы!**




Між тым Белстат нас не радуе. Паводле ягоных лічбаў, выручка Беларусі ад экспарту нафтапрадуктаў у студзені-чэрвені 2013 года знізілася на 2,536 мільярда долараў (30,1%) у параўнанні са студзенем-чэрвенем 2012 года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Значнае зніжэнне выручкі тлумачыцца як скарачэннем фізічных аб'ёмаў экспарту, так і зніжэннем экспартных коштаў.

За шэсць месяцаў бягучага года на экспарт было пастаўлена 7,720 мільёна тон нафтапрадуктаў, што на 21,5% менш, чым за аналагічны перыяд 2013 года. Экспарт у краіны па-за СНД знізіўся на 28,8% і склаў 5,343 мільёна тон, у грашовым выражэнні аб'ём экспарту ўпаў на 37,8% — да 3,846 мільярда долараў, а экспарт у краіны СНД вырас на 1,9% — да 2,377 мільёна тон, у вартасным выражэнні знізіўся на 9% і склаў 2,042 мільярда долараў.

Паказчыкі Белстату цалкам зразумелыя. Першая палова 2012 года — гэта пік «разбаўляльна-растваральнай аферы», калі пад відам разбаўляльнікаў у Еўропу ішлі нафтапрадукты. Ужо тады было зразумела, што «лавачка» пад ціскам з Расіі хутка прыкрыецца. Вось і імкнуліся выціснуць з гэтай схемы самае апошняе, што можна было выціснуць. А пасля экспарт, натуральна, упаў.

Аднак паплыла не толькі нафта. Экспарт вырабленых у Беларусі грузавых аўтамабіляў у Расію за 1-е паўгоддзе 2013 года таксама знізіўся амаль удвая ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Увесь экспарт грузавых аўтамабіляў у студзені-чэрвені 2013 знізіўся на 40,7% да аналагічнага перыяду 2012 года (да 4 087 штук). Пастаўкі на асноўны рынак збыту беларускіх грузавікоў — расійскі — знізіліся на 48,9% (да 3 018 штук).

Падзенне экспарту амаль удвая азначае, што да канца 2012 года беларускі аўтапрам не проста страціў свае канкурэнтныя перавагі, забяспечаныя 3-кратнай дэвальвацыяй нацвалюты, але і пачаў прыкметна прайграваць у канкурэнтнай барацьбе з расійскімі і замежнымі вытворцамі.

У гэтай сітуацыі застаецца гандляваць тым, на што ёсць попыт і што нам не патрэбна. Калі не купляюць нашы МАЗы — будуць купляць нашы самалёты. Аляксандр Лукашэнка распарадзіўся распрадаваць непатрэбную зброю. «Я хацеў бы, каб сёння было сказана пра тыя лішкі ўзбраенняў, прадукцыі ваеннага прызначэння, якія знаходзяцца ва Узброеных сілах і, у прынцыпе, нам не патрэбныя ў сувязі з тым, што ідзе мадэрнізацыя ў ВС, і пра тое, што мы з імі будзем рабіць», — сказаў Лукашэнка на нарадзе з нагоды рэформы Узброеных сіл.

«Жадаючых набыць падобныя віды ўзбраенняў дастаткова. Мы гэтага не хавалі. Калі мы дзесьці зможам іх рэалізаваць, то гэта трэба зрабіць. Ад іх, вядома ж, трэба пазбаўляцца, пакуль гэтая прадукцыя не састарэла, патрэбна каму-небудзь. Я хацеў бы, каб усе па-гаспадарску паставіліся да лішкаў прадукцыі ваеннага прызначэння, якія ёсць ва Узброеных сілах», — запатрабаваў пры гэтым Лукашэнка.

Кажуць, што першыя «беларускія» Су–24, якія ў нас былі знятыя з баявога дзяжурства з-за маральнай ды тэхнічнай састарэласці, былі ўжо заўважаныя ў Судане. Што ж, калі суданскія ваякі жадаюць «гробіцца» на той тэхніцы, якая нават нам не патрэбная, — гэта іх справа. А нашая справа ў гэтым жа рэчышчы — не патрапіцца інспектарам ААН, бо ў Судан забароненая пастаўка ўзбраенняў: там ідзе грамадзянская вайна. Калі ж пастаўка беларускай ваеннай тэхнікі пацвердзіцца, то супраць нас могуць увесці санкцыі ААН.

Але калі дзяржава плачацца пра тое, што ёй хранічна не хапае грошай, то іншыя звесткі гэта абвяргаюць. Напрыклад, на тыдні быў удакладнены пералік прыватызаваных раней прадпрыемстваў, якія дзяржава хацела б нацыяналізаваць або вярнуць пад свой кантроль. Згодна з пастановай Савета міністраў Беларусі №721 ад 15 жніўня 2013 года, мясцовыя ўлады (аблвыканкамы і Мінгарвыканкам) атрымалі пераважнае права скупкі акцый 91 прадпрыемства.

Што дзіўна, у спіс «назад прыватызуемых» прадпрыемстваў патрапілі не толькі неэфектыўныя акцыянерныя таварыствы і «прапашчыя» прадпрыемствы, але і досыць паспяховыя. Напрыклад, ААТ «Мазырсоль», ААТ «Світанак», ААТ «Кіруючая кампанія холдынгу «Забудова», ЗАТ «Атлант», ААТ «Керамін», ААТ «Элема», ЗАТ «Мілавіца» і іншыя.

Навошта досыць паспяховыя прадпрыемствы пераводзіць назад пад дзяржаўнае кіраванне і дзяржаўны кантроль? Калі яны паспяхова працуюць, чаму б не пакінуць іх у гэтым стане? Бо раптам будзе, як са «Спартаком» і «Камунаркай» — прадпрыемствы нацыяналізавалі, і адразу ж пачаліся праблемы са збытам?

Бачна, хтосьці пад шумок хоча прыбраць да сваіх рук найлепшыя актывы. Можа, мяркуючы, што «Мілавіца» альбо «Забудова» проста згубяцца ў спісе сярод 91 прадпрыемства, і іх страту проста не заўважаць? А потым можна будзе і прадаць іх камунебудзь даражэй.

Грошы ёсць не толькі ў дзяржавы. У Беларусі ў ліпені попыт на золата ў злітках вырас на 9,4% у параўнанні з чэрвенем. У прыватнасці, Нацбанк прадаў залатыя мерныя злІткі агульнай вагой 24,5 кг супраць 22,4 кг у чэрвені. Продажы срэбных зліткаў выраслі на 7,4% — да 40,6 кг у ліпені з 37,8 кг у чэрвені.

Варта зазначыць дзве цікавыя рэчы. Першая: ліпень — сезон адпачынкаў. Другая: золата — доўгатэрміновы сродак захавання грошай. То бок, нават у сезон, калі можна было б скупіць валюту і з'ехаць адпачываць за мяжу, у насельніцтва засталіся грошы, каб укладаць іх у доўгатэрміновы, але надзейны сродак захавання грошай. Значыць, у насельніцтва грошай не проста багата — іх зашмат. Настолькі шмат, што нават затраты на адпачынак не з'яўляюцца падставай для таго, каб не павялічваць свае зберажэнні.

Вось пасля ўсяго гэтага і чухай патыліцу: ці сапраўды мы такія бедныя, якімі звонку здаемся?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### УЛАДЗІМІР ЯРОМЕНАК

Суддзя суда Першамайскага раёна Мінска Леанід Ярмоленкаў прызнаў былога палітвязня Уладзіміра Яроменку вінаватым у парушэнні прэвентыўнага нагляду (артыкул 421 Крымінальнага кодэкса) і прысудзіў яго да трох месяцаў арышту.

Пакуль Яроменак застаецца на свабодзе, да разгляду скаргі на прысуд.

Але справа не ў прысудзе, а ў тым, што Яроменак не збіраецца спыняць сваёй дзейнасці. «Калі ўлады сваімі рэпрэсіямі хочуць мяне запалохаць, гэта ў іх не атрымаецца, — заявіў ён журналістам пасля абвяшчэння прысуду. — Я чалавек упарты. Калі рэжым вырашыў мяне зноў ізаляваць, перашкодзіць маёй дзейнасці, значыць, я, напэўна, раблю ўсё правільна».

Яроменак называе свой прысуд «досыць нечаканым». «Я думаў, што суддзя дасць шэсць месяцаў, як і прасіў дзяржабвінаваўца. Таму тры месяцы арышту — не самы горшы варыянт. Чаму менавіта такі тэрмін — сказаць складана. Думаю, адвакат усё ж змагла пераканаць, што крымінальная справа і матэрыялы для яе збіраліся не па законе», — лічыць асуджаны.

Нагадаем, што актывіст зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Уладзімір Яроменак у студзені 2011 года быў асуджаны на тры гады па справе «аб масавых беспарадках», а ў жніўні таго ж года памілаваны.

### ІНГА ХРУШЧОВА



Былая вядучая праграмы «Панарама» Інга Хрушчова раптам заявіла, што сышла з працы на беларускім тэлебачанні «па маральных меркаваннях».

Усё б нічога, калі б не асоба Хрушчовай. У свой час яна была адным з самых вядомых прапагандыстаў БТ. З 1995 па 2001 гады яна вяла выпускі навінаў і працавала ў пуле Аляксандра Лукашэнкі. Узначальвала аддзел палітычных аглядальнікаў Агенцтва тэлевізійных навін. Інга Хрушчова не саромелася называць апазіцыю «звярамі» і «адмарозкамі» ў прамым эфіры. Апошні раз адыёзная вядучая з'явілася ў эфіры пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і расхвальвала беларускага прэзідэнта.

«Я сышла з БТ менавіта па меркаваннях маральных. І даўно ўжо не займаюся прапагандай. Чаго жадаю ўсім, хто думае, што палітыка — гэта нешта светлае і чыстае. У любым палітычным лагеры вас выкарыстоўваюць», — напісала яна на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку».

Вось і разважай: ці нарэшце дама на 43-м годзе жыцця паразумнела, ці БТ стала настолькі маральным, што Хрушчовай там проста месца не знайшлося.



### ДЗМІТРЫЙ ВАРЭЦ

Беларус Дзмітрый Варэц стаў чэмпіёнам Еўропы па тайскім боксе ў вагавай катэгорыі да 63 кілаграмаў. Праўда, за залаты медаль байцу прыйшлося вытрымаць бой не толькі з супернікам, але і з суддзямі.

Фінальны бой даваў пуцёўку на так званыя Алімпійскія гульні па адзінаборствах. Адзіны пропуск на іх атрымліваў толькі пераможца кантынентальнага першынства. Дзмітрый Варэц выйграў тры баі і дамогся права выступаць у фінале супраць расійскага атлета Каплана Абукава. Па выніках бою сумневаў у тым, што перамог беларус, не было ні ў каго, але суддзя чамусьці раптам падняў руку яго суперніка. «Шок, па-іншаму і не скажаш. Трыбуны, спецыялісты, іншыя байцы — усе бачылі, што я перамог шчыра, не бачылі гэтага толькі суддзі. На рынг высыпала амаль у поўным складзе зборная Беларусі: байцы, трэнеры. Спаборніцтвы былі спыненыя. Неверагодная справа, галоўны суддзя спаборніцтваў прапанаваў напісаць афіцыйны пратэст», — распавядае Варэц.

Пасля прагляду відэа спаборніцтва перамогу ўсё ж аддалі беларусу.

АСОБА

# АЛЕСЬ МІХАЛЕВІЧ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Такой колькасці калег-журналістаў, як 28 лютага 2011 года на першай пасля вызвалення з вязніцы КДБ прэс-канферэнцыі Алеся Міхалевіча, я не бачыў вельмі даўно. Напэўна, з тых часоў, калі апазіцыянеры не толькі маглі расказаць нешта цікавае, але яшчэ і на нешта паўплываць. Прэс-канферэнцыя Алеся Міхалевіча на былой сядзібе БНФ не толькі прэзентавала сапраўдную інфармацыйную нагоду, але і канкрэтна дапамагла ўсім, хто ў той час знаходзіўся за кратамі. Са следчага ізалятара КДБ зніклі сумнавядомыя маскі-шоў.**



## Шчаслівае дзяцінства

Алесь Міхалевіч выйшаў з «праслойкі». Менавіта так у савецкія часы называлі інтэлігенцыю. Яго бацька, Анатоль Аляксеевіч, працаваў у Інстытуце будаўніцтва і архітэктуры, займаўся электраправоднасцю рэчываў, а маці, Людміла Сцяпанаўна, у Інстытуце генетыкі і цыталогіі даследавала генныя мутацыі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. 15 траўня 1975 года ў іх нарадзіўся сын, якога назвалі Алесем. Адбылося гэта ў беларускай сталіцы. У Алеся ёсць яшчэ старэйшая на 5 гадоў сястра. Афіцыйнае імя — Алена, але ўсе завуць яе Лёляй. Паводле спецыяльнасці яна біёлаг.

Як і ўсе хлопчыкі, у раннім дзяцінстве Алесь Міхалевіч марыў стаць касманаўтам. Аднак бацькі патлумачылі, што пры дрэнным зроку гэта немагчыма, і таму пазней ён зразумеў, што хоча быць мовазнаўцам.

Вучыўся ён у мінскай 19-й матэматычнай школе, але ў апошнім класе перавёўся ў знакаміты Гуманітарны ліцэй. Там пазнаёміўся з выбітнымі выкладчыкамі: літаратуразнаўцам Пятром Васючэнкам, мовазнаўцам Вінцуком Вячоркам, грамадазнаўцам Анатолем Сідарэвічам, эканамістам Юрасём Чудзіным. Зразумела, у галаве ўсё перамяшалася, таму пры паступленні ва ўніверсітэт Алесь выбіраў паміж эканомікай, паліталогіяй і правазнаўствам. На паліталогію ў БДУ набор адбываўся ўпершыню. Гэта і стала вырашальным.

У 1992 годзе Алесь Міхалевіч паступіў у галоўны ўніверсітэт краіны, і адразу ж уступіў у Задзіночанне беларускіх студэнтаў. Часам некаторыя калегі падаюць, што ён быў заснавальнікам арганізацыі. Гэта няпраўда. Арганізацыя на той момант ужо не толькі існавала, нават была афіцыйна зарэгістраваная. Узначальваў яе студэнт-хімік Аляксей Глушко. А Алесь узначаліў суполку ЗБС у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

**Для таго, каб не пабаяцца і публічна расказаць пра катаванні палітвязняў у СІЗА КДБ, трэба мець мужнасць. Пасля гэтай заявы Міхалевіча выклікалі на допыт у КДБ, але ён туды не прыйшоў**

Усю арганізацыю ён узначаліў крыху пазней — у 1995 годзе. І кіраваў ёй да 1999 года. Менавіта час яго старшынства не без падстаў называюць самым яркім у існаванні ЗБС. Няма сэнсу пералічваць усе мерапрыемствы, адзначу толькі іх адрозненне ад астатніх сваёй крэатыўнасцю. «Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако», напрыклад.

## Залежная навука

У 1997 годзе Алесь Міхалевіч паспяхова скончыў юрыдычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «паліталогія», і адразу ж стаў аспірантам Інстытута дзяржавы і права Нацыянальнай акадэміі навук. Нягледзячы на тое, што некалі ён праходзіў стажыроўкі ў Варшаўскім і Оксфардскім універсітэтах, што без сумневаў сведчыць пра высокі ўзровень адукаванасці, абараніць кандыдацкую дысертацыю ў роднай Беларусі яму не далі.

Справа ў тым, што на той момант ён ужо быў сябрам БНФ, а кіраўніцтва краіны вельмі добра памятала, што менавіта з навукова-культурніцкага асяроддзя і выйшла некалі самая моцная апазіцыйная арганізацыя.

Нягледзячы на тое, што дзяржаўная абструкцыя, мякка кажучы, не дапамагала Алесю Міхалевічу, пасля сканчэння вучобы ён стварыў і ўзначаліў арганізацыю, якая даволі паспяхова займалася моладзевымі абменамі і турызмам. Дзякуючы ёй больш за 2000 маладзёнаў здолелі наведаць краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы.

З 2000 года Міхалевіч працаваў на кіруючых пасадах у турыстычным СП «Аркадыя». Нават быў генеральным дырэктарам гэтай кампаніі. Пасля сямі праверак, учыненых уладамі з-за ўдзелу ў парламенцкіх выбарах 2004 года, пасаду давялося пакінуць.

## Складаная палітыка

У 2005 годзе Міністэрства эканомікі РБ выдае Алесю Міхалевічу акрэдытацыю выступаць у якасці антыкрызіснага кіраўніка. У 2007–2008 гадах ён працаваў юрысконсультам Асацыяцыі інвалідаў вайны ў Афганістане, а потым два гады — юрыстам Беларускага незалежнага прафсаюзу.

Паралельна з прафесійнай дзейнасцю займаўся і грамадска-палітычнай. З 2003 па 2007 гады Алесь Міхалевіч быў дэпутатам Пухавіцкага раённага савета Мінскай вобласці і каардынатарам Асамблеі дэпутатаў мясцовых саветаў. Выдаваў незалежную газету «Рэгіён» у Мар'інай Горцы. Ініцыяваў шэраг крокаў па пашырэнні паўнамоцтваў органаў мясцовага самакіравання.

Здаецца, такі спіс дае нагоды адчуваць сябе вельмі добра ў апазіцыйным асяроддзі, аднак у рэальнасці ўсё выйшла інакш.

Я ўжо неаднаразова пісаў пра тое, што жыву з адчуваннем нейкай прапушчанай падзеі. Такое ўражанне, што ўлада ў краіне ўжо памянялася, прэзідэнт іншы, і апазіцыянерам, акрамя «грызні» паміж сабой, няма чаго рабіць.

Канешне, гэта толькі сумны жарт, але пастаянныя разборкі ў апазіцыйным асяроддзі моцна стамілі не толькі мяне. Не палічыце перабольшваннем, аднак сёння даволі цяжка назваць апазіцыйнага лідара, які не быў бы абвінавачаны ў супрацоўніцтве з КДБ і не адзначыўся зачысткай сваіх канкурэнтаў.

Але сумна не толькі ад гэтага. На жаль, асабістыя амбіцыі лідараў вельмі часта прыводзяць да пачкавання палітычных сіл. Напрыклад, толькі спецыялісты і людзі вельмі дасведчаныя могуць дакладна сказаць, колькі ў нашай краіне на дадзены момант існуе сацыял-дэмакратычных партый...

На жаль, такім жа шляхам пайшоў і БНФ.

З 2004 па 2008 год Алесь Міхалевіч быў намеснікам старшыні партыі БНФ, і сёння, напэўна, у гэтым статусе былі б нязначныя змены, калі б у 2008 годзе ён не балатаваўся на пасаду старшыні. Менавіта гэта, на мой погляд, і стала падставай выключэння з афіцыйнай фармуліроўкай «за парушэнні партыйнай этыкі і дысцыпліны».

Наўмысна не стану займаць нейкі канкрэтны бок, бо гэта не справа журналіста. Адзначу толькі, што Алесь Міхалевіч далёка не адзіны апазіцыянер, які быў выключаны з шэрагаў аднадумцаў. Да таго ж, «выключэнне» апанентаў — зусім не тая каштоўнасць, за якую змагаюцца апаненты ўлады.

Не палічыце зларадствам, але я ўсё часцей і часцей пагаджаюся з тымі, хто лічыць: адзінае, што іх можна аб'ядаць, — турма.

## Няпросты выбар

Не хочацца рабіць падобную выснову, але ў снежні 2010 года так і адбылося. За кратамі ўсе сталі палітвязнямі, і толькі потым прадстаўнікамі нейкіх палітычных плыняў.

27 студзеня 2010 года Алесь Міхалевіч публічна абвясціў пра пачатак сваёй кампаніі па вылучэнні на пасаду прэзідэнта Беларусі ў якасці незалежнага кандыдата. А роўна праз тры месяцы, 27 траўня, прадставіў тэзісы сваёй перадвыбарнай праграмы «Беларусь: стратэгія эвалюцыі».

24 жніўня 2010 года ён заснаваў і ўзначаліў грамадскі рух «За мадэрнізацыю».

27 верасня 2010 года Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала яго ініцыятыўную групу ў колькасці 1795 чалавек.

Пасля рэгістрацыі неабходных подпісаў, Алесь Міхалевіч атрымаў статус кандыдата ў прэзідэнты, але гэта не выратавала яго ад пераследу пасля выбараў. Што і як адбывалася ў тыя дні, пісалі вельмі многія. У тым ліку і я, таму, як і ў папярэднім нарысе, прапаную сайт http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=20069

У кнізе «Супраць плыні» даволі падрабязна расказана ў тымі ліку і пра тое, што адбылося 28 лютага 2011 года. Адзначу толькі, што для таго, каб не пабаяцца і публічна расказаць пра катаванні палітвязняў у СІЗА КДБ, трэба мець МУЖНАСЦЬ. Пасля гэтай заявы Алеся Міхалевіча выклікалі на допыт у КДБ, але ён туды не прыйшоў, таемна пакінуўшы Беларусь, і быў абвешчаны ўладамі ў міжнародны вышук.

23 сакавіка 2011 года стала вядома, што Алесь Міхалевіч атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі. Цяпер ён жыве ў адной з краінаў Еўропы.

## Вымушаная эміграцыя

Ніколі не зайздрошчу тым, хто па палітычных матывах з'ехаў з Беларусі, хаця сярод іх сустракаюцца людзі, якія да палітыкі не маюць ніякага дачынення. У адрозненне ад іх, Алесь Міхалевіч эміграваў зусім не таму, што гэтага хацеў, а таму, што быў вымушаны.

Пасля ад'езду з Беларусі, ён у асноўным займаўся навуковымі справамі. Рыхтаваў доктарскую дысертацыю, якую абараніў 10 траўня 2013 года ў Польскай акадэміі навук. Чытаў лекцыі ў некалькіх універсітэтах.

Як і трэба было чакаць, у фокусе яго ўвагі заўсёды заставалася праблема катаванняў у беларускіх турмах. Сустракаўся з гэтай нагоды са спецыяльным дакладчыкам ААН па катаваннях Хуанам Мэндэсам. Беларуская тэма яго вельмі зацікавіла. Камунікацыі працягваюцца і цяпер.

Акрамя таго, выйшаў першы нумар часопіса «Брэйнсторм», які рэдагуе Алесь Міхалевіч. Часопіс прысвечаны будучай Беларусі, рэформам, якія неабходна зрабіць у нашай краіне.

Напэўна, у гэтым месцы, па законах жанру, трэба было паставіць кропку, але хочацца падзяліцца з чытачамі яшчэ аднымі вельмі цікавымі абставінамі асабістага жыцця Алеся Міхалевіча.

Можна сказаць, што дзякуючы грамадска-палітычнай дзейнасці ён сустрэў і сваю «другую палову». У траўні 1996 года для дзелавой размовы Алесь Міхалевіч сустрэўся з Міланай Шушкевіч, дачкой паэта-песенніка Міхася Серафімавіча Шушкевіча, які не мае ніякага дачынення да самага вядомага носьбіта гэтага прозвішча.

Сустрэча была звязана са справамі Задзіночання беларускіх студэнтаў. І, як успамінае сама Мілана, «нічога тады паміж намі не было, чыста працоўныя адносіны». Таму весці нейкі адлік менавіта з гэтага часу не выпадае.

Пачуцці нарадзіліся крыху пазней, а 26 жніўня 1999 выліліся ў вяселле.

Мілана Міхалевіч нядаўна скончыла аспірантуру і выкладае (па размеркаванні) англійскую мову ў адным з ВНУ.

Герою гэтага нарыса яна падаравала двух прыгожых дачок, таму напрыканцы будзе лагічней паставіць не кропку, а шматкроп'е...

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# ПРАДАЦЬ КРАІНУ

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Эксперты казалі пра тое, што нармальная прыватызацыя ў Беларусі зараз немагчымая. Яна пройдзе па непразрыстых схемах, і народ усё роўна карысці ад яе не атрымае, а таму пакуль што з продажам прадпрыемстваў варта пачакаць. Але што будзе адбывацца, калі прыватызацыі не будзе?**

Да пытання пра тое, што будзе ў краіне без прыватызацыі, эканамісты нечакана падышлі падчас круглага стала, зладжанага Аб'яднанай грамадзянскай партыяй з нагоды агромністых планаў ураду па прыцягненні замежных інвестыцый у Беларусь. На наступны 2014 год урад плануе прыцягнуць у краіну замежных інвестыцый на рэкордную суму ў 6,7 мільярда долараў, з іх 4 мільярды — за кошт прыватызацыі. Гэта пры тым, што ў 2012 і 2013 гадах планы на «прыватызацыйныя грошы» былі ў памеры толькі 2,5 мільярда долараў на год. І гэтыя планы выкананыя не былі ў 2012-м і наўрад ці нас парадуе 2013-ты.

Чаму ў беларускую эканоміку не ідуць грошы? Былы старшыня Нацбанку, ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч тлумачыў прапісныя ісціны. Планы — гэта яшчэ не грошы, планаваць можна што заўгодна. А інвестар у краіну не прыйдзе, бо ўмовы для гэтага не створаныя. Для таго, каб інвестар ішоў у Беларусь, ён павінен ведаць, што ў яго ніхто не адбярэ ні капітал, ні прыбытак. Што ён вольна будзе распараджацца сваёй уласнасцю і ў плане цэнаўтварэння, і рэалізацыі прадукцыі, і аплаты працы. У Беларусі такога блізка няма, і гэта галоўны фактар, чаму да нас не ідуць замежныя інвестыцыі з цывілізаванага свету.

Да таго ж, дзяржава ўсяляк спрыяе таму, каб інвестар адмовіўся ад паходу ў Беларусь. У нас уведзены «ўладальніцкі нагляд» за прыватызаванымі прадпрыемствамі, а ўлада, ствараючы інстытут прадстаўнікоў дзяржавы на прадпрыемствах з правам блакуючага голасу (такія змены ў закон аб прыватызацыі ўжо прайшлі першае чытанне ў парламенце), фактычна забараняе далейшую прыватызацыю.

Кіраўнік Цэнтра Мізэса, вядомы эканаміст Яраслаў Раманчук адзначае яшчэ адну цікавую рэч. Заяўлены ўрадам курс на мадэрнізацыю — гэта, аказваецца, курс зусім не на мадэрнізацыю, а на выцясненне прыватных інвестыцый, і замежных у тым ліку, дзяржаўнымі. «30 трыльёнаў рублёў з бюджэту на падтрымку нацыянальнай эканомікі — гэта замена нармальных інвестыцый, якія прыходзяць не толькі з грашыма, а з тэхналогіямі, рынкамі збыту і сваімі ноў-хаў», — адзначае Раманчук.

Да таго ж, замест «масавых інвестыцый» наша ўлада ўзяла курс на «кропкавыя». То бок, замест таго, каб масава прыцягваць інвестараў у сярэднія і малыя прадпрыемствы, улада працуе па буйных аб'ектах. Продаж «Белтрансгазу» альбо МТС, па вялікім рахунку, толькі ствярае інвестыцыйную статыстыку, але не ўплывае на якасць жыцця ў краіне, асабліва ў рэгіёнах. Тым больш, што палова інвестыцый прыпадае на гандаль, краіна ператвараецца ў вялікі «Акропаліс», а не ў краіну з нейкім вытворчым патэнцыялам.



Чаму так адбываецца? Раманчук выказаў цікавую ідэю: гэта робіцца цалкам свядома. «Ідзе адмысловая гульня на паніжэнне кошту активаў для таго, каб у бліжэйшыя два-тры гады, калі ўвага Расіі і ЕС будзе адцягнутая на іншыя прыярытэты і праекты, чыноўнікі з дапамогай Адміністрацыі прэзідэнта, сілавых структур і гэтак далей прыбралі да рук усё самае смачнае і самае добрае. А потым — альбо шляхам продажу афшорам будуць грошы атрымліваць, альбо сумесныя прадпрыемствы ствараць», — прагназуе Раманчук.

То бок, чыноўнікі не зацікаўленыя ў прыватызацыі і прыходзе інвестараў зараз. Бо прыход інвестара з новымі тэхналогіямі і сваімі грашыма істотна павысіць капіталізацыю беларускіх прадпрыемстваў, што не дазволіць «захапаць» іх за бясцэнак, каб потым прадаць па рынкавым коштам. 3-за гэтага ж будзе і правальваецца праграма мадэрнізацыі. Грошы на мадэрнізацыю будуць марнавацца да таго часу, пакуль не прыйдзе «палітык-бізнэсмэн», і не скіруе дзяржаўныя рэсурсы на павышэнне капіталізацыі ўжо свайго, а не дзяржаўнага актыву, каб потым гэты актыў камусьці прадаць і пакласці такім чынам грошы ў сваю (а не дзяржаўную) кішэню.

На думку як Раманчука, так і эксперта па эканоміцы дыскусійнага аб'яднання «Ліберальны клуб» Антона Болтачкі, гэты працэс «прыхватызацыі ўласнасці» мае адбывацца на працягу бліжэйшых двух-трох гадоў. А потым настане вельмі цікавая рэч.

У дзяржавы не будзе адпаведных сродкаў напаўнення бюджэту. Прадпрыемствы будуць прададзеныя ўласнікам, але грошы ў бюджэт трэба недзе браць. І Болтачка прагназуе продаж зямлі.

«Няма чаго будзе прадаваць, няма чаго будзе выціскаць з насельніцтва ў выглядзе падаткаў, няма чаго будзе выціснуць і з савецкіх па сутнасці вытворчасцяў. Адзіны актыў, які ўлада зможа канвертаваць у грошы, — гэта зямля. Зямлі шмат, яна рэальна пустая, шчыльнасць насельніцтва ў нас дастаткова нізкая. Паўстане пытанне аб продажы зямлі», — прагназуе Болтачка.

На яго думку, першы такі эксперымент па яе продажы ўжо зроблены — гэта той самы Беларуска-кітайскі індустрыяльны парк, які павінен будавацца пад Мінскам. На асобнай і не маленькай тэрыторыі (8 тысяч гектараў) ствараюцца ўмовы, зусім адрозныя ад астатняй Беларусі і ў эканамічным, і ў прававым плане. Груба кажучы, гэта будзе маленькі аўтаномны Кітай на тэрыторыі Беларусі: кітайцы будуць там жыць паводле сваіх законаў і сваіх правілаў. Па сутнасці, гэта і ёсць спосаб продажу зямлі іншым замежным агентам, такім вось, і гэтак далей, адзначае Болтачка.

А тая тэрыторыя, якая застанецца беларусам, будзе «залатым фондам» улады. «Адзін з вельмі смачных падаткаў для дзяржавы — гэта падатак на зямлю, на нерухомасць. Рабіць нічога не трэба, толькі стрыгчы купоны. У нас падатак на зямлю 1%, у Расіі 2%. Чаму б не зрабіць, як у Расіі? А гэта — падваенне паступлення ад падатку на нерухомасць, на зямлю. Гэта застанецца адзіным актывам, які можна манетызаваць. Гэта праз два-тры гады, я думаю, пачнецца», — прагназуе Болтачка.

Праўда, Раманчук не настолькі песімістычны. Ён мяркуе, што да продажу зямлі мы дойдзем не раней 2020 года. Напярэдадні 2015-га мы яшчэ «патармозім» з прыватызацыяй за кошт крэдытаў, потым будзе «распіл» маёмасці, а толькі потым чыноўнікі пяройдуць у алігархі, а Беларусь пачне прадаваць сябе як тэрыторыю.

ПРАБЛЕМА

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА МАЛАЭФЕКТЫЎНАЯ

**У рамках праекта «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі для Беларусі» мы гутарым з эканамістам Леанідам Злотнікавым пра тое, якія змены патрэбныя беларускай сельскай гаспадарцы.**



Леанід Злотнікаў

***— Можа стварыцца ўражанне, што ў сельскай гаспадарцы ў нас усё не так і дрэнна — надоі і ўраджаі растуць, беларуская сельскагаспадарчая прадукцыя прадаецца на экспарт, у Маскве хваляць смак беларускай смятаны і гэтак далей. З пункту гледжання эканаміста — ці пацвярджаецца гэта ўражанне лічбамі і фактамі?***

— Трэба спачатку прааналізаваць колькасныя паказчыкі, а затым — якасныя. Калі ўзяць першыя, то, сапраўды, за апошнія гадоў дзесяць крыху павялічылася ўраджайнасць збожжавых культур — цяпер каля 30 цэнтнераў з гектара, а гадоў дзесяць таму было ў сярэднім 27. Мы назіраем рост прадукцыйнасці малочнага статка: было 3 тысячы, цяпер — больш за 4 тысячы кілаграмаў.

Але калі параўнаць з перадавымі краінамі, то нашая прадуктыўнасць прыкладна ў два разы меншая. Але нават і гэтыя станоўчыя зрухі дасягнутыя занадта дарагой цаной. За апошнія 10–12 гадоў інвестыцыі ў сельскую гаспадарку склалі каля 40 мільярдаў долараў. Больш за ўсё ўкладвалася менавіта ў яе!

***— Аднак сельская гаспадарка датуецца і ў Еўропе, і ў Амерыцы. Чаму тады іх датацыі — «правільныя», а беларускія — не?***

— Я казаў толькі пра колькасныя паказчыкі, а цяпер пяройдзем да якасных. У Нямеччыне на адзін гектар плошчы ўносяць мінеральных угнаенняў у два разы менш, чым у Беларусі, а ўраджайнасць — у два разы вышэйшая. Кармоў на адзін цэнтнер прыбаўлення ў вазе таксама там патрабуецца ў два разы менш. Гэта значыць, аддача беларускіх інвестыцый у сельскую гаспадарку вельмі нізкая.

Нават Аляксандр Лукашэнка ў апошнім пасланні парламенту заявіў, што яго хвалюе перш за ўсё эфектыўнасць сельскай гаспадаркі. Колькасць стратных прадпрыемстваў у мінулым годзе складала 30 адсоткаў, у гэтым — ужо 54. Але гэтыя статыстычныя паказнікі не адлюстроўваюць рэальную карціну, таму што калі ўлічыць інфляцыю і хуткасць абароту капіталу, то можна заявіць: фактычна амаль усе сельгаспрадпрыемствы неэфектыўныя. Яны жывуць за кошт усіх нас, грамадзян Беларусі.

Калі ўзяць афіцыйныя лічбы, колькі сярэдні беларус выдаткоўвае на прадукты харчавання, то атрымаем 46 адсоткаў. Паказнік самых бедных краін… У Расіі аналагічная лічба — 33 адсоткі, у Еўропе — 20–25.

***— Ведаючы вашы эканамічныя погляды, магу прадбачыць адказ на пытанне пра тое, што ж трэба рабіць: адкрыць межы для таннага імпарту, паменшыць датацыі і гэтак далей. І куды тады падзецца ўсім нашым перадавікоў сельскай гаспадаркі, якія адразу стануць адсталымі?***

— Гэта вельмі павярхоўнае ўяўленне пра тое, што прапануюць незалежныя эканамісты. Сапраўды, на перыяд перабудовы сельскай гаспадаркі я прапаноўваў адкрыць дарогу для таннага імпартнага харчавання, як гэта зрабіла Эстонія ў 1990-я гады. Калі мы хочам, каб наша насельніцтва траціла менш на харчаванне, то трэба адкрыць межы для імпарту. Акрамя таго, варта памятаць: любая абарона свайго рынку ад імпарту паніжае ўзровень жыцця насельніцтва.

Наконт таго, што ж рабіць… Мая праграма глыбока распрацаваная, там абагульнены вопыт многіх краін свету.

Дзве абавязковыя ўмовы — адкрытая эканоміка і глыбокая рэформа сельскай гаспадаркі. Прычым гэта не такая рэформа, якую спрабавалі здзейсніць ва Украіне, і часткова ў нас — ператваралі калектыўную ўласнасць, уводзілі акцыянерныя таварыствы, але нічога асабліва не атрымлівалася. Пасля 2000 года украінцы ўрэшце падзялілі зямлю паміж тымі, хто на ёй працуе. Стварылі буйныя гаспадаркі, акцыянерныя таварыствы. Нашы суседзі ўжо назапасілі вопыт пераўтварэнняў на вёсцы. І толькі расійскі прыклад мне не падабаецца.

***— Лукашэнка не раз заяўляў, што захаванне калектыўных гаспадарак — не толькі пытанне эканомікі, але палітыкі і ідэалогіі. Магчыма, на сённяшні дзень гэта ўжо не так актуальна? Ці ёсць прыкметы таго, што дзяржава гатовая пайсці на сур'ёзныя пераўтварэнні?***

— Так, зямля сёння ўсё больш адарваная ад селяніна. Людзі прыязджаюць з аграгарадкоў, папрацавалі, вярнуліся на месца. Селянін сёння ўсё больш падобны на прамысловага рабочага. Традыцыйны вясковы ўклад змяніўся, і ў ім занята нашмат менш людзей, чым раней. У сельскай вытворчасці цяпер працуе невялікая колькасць людзей, якія і атрымліваюць менш за іншых — прыбыткі ў гэтай галіне традыцыйна самыя нізкія па народнай гаспадарцы.

Лукашэнка раней наўпрост казаў, што «вёска — гэта наша палітычная апора, і мы не дамо яе разбурыць». Але цяпер і колькасць вясковага электарату памяншаецца з кожным годам, і незадаволеных людзей там усё больш. Так што ўжо цяжка казаць, што сяло — палітычная апора прэзідэнта.

Паводле «Свободные новости плюс»

## 30 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.05** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Расія). 1-я серыя.
**11.00** Серыял «Адзіны мой грэх».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія). 1-я серыя.
**13.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20, 00.00** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Прэм'ера! Дэтэктыўная меладрама «Пад прыцэлам кахання» (Расія).
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Дзяўчаты».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Камедыя «Каханне з апавяшчэннем».
**23.05** Трылер «Забіраючы жыцці».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома-2».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Месяцам быў поўны сад». Расія, 2000 г.
**15.45** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічная падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Спатканне маёй мары». ЗША, 2006 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** «Дым над вадой». Канцэрт.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.10** Час футболу.
**11.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.40** Прыгодніцкая меладрама «Вось і лета прайшло..» (СССР).
**13.00** Камедыя «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм»).
**14.45** Сатырычная камедыя «Гараж» (СССР).
**16.45** Дак. серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія). 1-я серыя.
**17.15** Дача здароўя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Дэтэктыўная меладрама «Асабістае жыццё афіцыйных людзей» (Расія-Украіна). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Суперкубак УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.40** Арэна.

### 3 Беларусь

**08.00** «Мой горад». Рагачоў.
**08.15** «У фокусе і без..» Народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак.
**09.00** «Палескі пачастунак». Халаднік.
**09.15** «Скандаліст, ці Пісьмы пра каханне».
**09.45** «Спецыяльны рэпартаж». Творчасць ансамбля «Сябры».
**10.00** Дзіцячы фільм. «Вось і лета прайшло».
**11.05** «Росчырк часу». Мастак Анатоль Концуб.
**11.20** «Карані».
**11.45** «Маем рэчы». Археалогія.
**12.00** «Мой горад». Рагачоў.
**12.15** «Мудрамер». Камедыя. 1-я і 2-я серыі.
**14.30** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Гарадзенская жамчужына. Каложская царква ў Гродна.
**14.55** «Лясныя хованкі». Навукова-папулярны фільм.
**15.10** «Кола». Кароткаметражны фільм.
**15.35** «Таямніца душы». Манашская каталіцкія ордэны на Беларусі.
**16.00** «Мой горад». Рагачоў.
**16.15** «Песні мінулага стагоддзя». Мелодыі кахання. Канцэрт зорак расійскай, украінскай і беларускай эстрады.
**17.10** «Музеум». Калекцыя керамікі з вёскі Гародная Столінскага раёна.
**17.30** Дзіцячы фільм. «Вось і лета прайшло».
**18.35** «Неба і зямля». Дак. фільм.
**19.00** «Маем рэчы». Сыраварня.
**19.10** «Сінематэка». «Песняры» ў кінематографе.
**19.50** «Глыбокае». Дакументальны фільм.
**20.05** «Скандаліст, ці Пісьмы пра каханне».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Мудрамер». Камедыя. 1-я і 2-я серыі.
**22.55** «АРТіШОК». Кінарэжысёр Андрэй Кудзіненка.
**23.20** «Песні мінулага стагоддзя». Канцэрт зорак расійскай, украінскай і беларускай эстрады.
**00.15** «Мой горад». Рагачоў.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Выратавальнікі.
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «Прафесія-рэпарцёр».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бамбіла. Працяг».
**21.25** Ты не паверыш!
**22.25** Вострасюжэтны фільм «Майстар».
**23.55** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**01.00** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Замежны жаніх».
**11.15** «Сардэчна запрашаем».
**11.45** «Рэспубліка сёння».
**12.25, 01.15** Т/с «Клон».
**15.25** «Злачынствa і пакаранне».
**15.50** «Сакрэтныя матэрыялы».
**16.20, 23.25** Т/с «Апошні сакрэт Майстры».
**18.30** Д/ф «Паднятая Астана».
**19.25** М/ф «Мядовы месяц».
**21.20** «Любімыя акцёры».
**21.45** М/ф «Вас чакае грамадзянка Ніканорава».
**03.45** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Параемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.10** «Бландзінка», серыял: 4 серыя.
**09.00** «Ноч з генералам», дак. фільм, 2001 г., Польшча.
**09.05** Невядомая Беларусь: «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь:, ч. 2.
**10.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 13 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 13 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм, 2006 г., Польшча: ч. 2.
**18.55** Еўропа сёння.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 5 серыя.
**23.00** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**00.30** Лета з дэтэктывам: «Левасуддзе», тэлесерыял: 4 серыя.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.45** Студыя «Белсат».

## 31 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.10** Фільм «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Фільм «Утаймавальніца тыграў» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.30** Каробка перадач.
**17.05** Анімацыйны фільм «Гісторыя цацак» (ЗША). 1-я частка.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прэм'ера! Рамантычная камедыя «Васількі для Васілісы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Прыгодніцкая камедыя «Брус Усемагутны» (ЗША).
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Сінія ночы». Шматсерыйны фільм.
**14.05** Ералаш.
**14.15** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Жадаю Вам …».
**18.15** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** Драма «Доказ жыцця».

### СТВ

**06.30** «Салдаты». Серыял.
**08.10** Фільм «Спатканне маёй мары». ЗША.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.00** «Прыгоды дылетанта».
**12.30** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял. Заключныя серыі.
**14.50** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Пяты элемент». Францыя.
**22.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**23.30** Фільм «Дзеткі ў парадку». ЗША, 2010 г.
**01.15** «Глядзець усім!».

### 2 Беларусь

**07.55** Мультфільмы.
**08.55** Фільм-казка «Іван ды Мар'я» (СССР).
**10.20** Пазакласная гадзіна.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Дэтэктыўная меладрама «Асабістае жыццё афіцыйных людзей « (Расія-Украіна). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**12.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.30** Дача здароўя.
**14.05** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія). 2-я серыя.
**14.40** Прэм'ера. Меладрама «Нахабніца» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**16.45** Прэм'ера! Пыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Рыжык у Залюстаркоўі» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Рамантычная камедыя «Стыльная штучка» (ЗША).
**23.10** Драма «Апошні танец» (ЗША).

### 3 Беларусь

**08.00** «Таямніца душы».
**08.30** Дзіцячы фільм. Палёт у краіну пачвараў.
**09.40** «У рэху імені тваййо...» Барбара Радзівіл.
**09.55** «Паданне пра Тураў». Дакументальны фільм.
**10.25** «...Штрых... пункцір...» Дакументальны фільм.
**11.05** «Крылатыя кошкі ночы». Навукова-папулярны фільм.
**11.20** «Пяць дзён з жыцця генеральнага канструктара». Дакументальны фільм.
**11.45** «Беларускі народны каляндар». Дзяды.
**12.05** «Дарагія лялькі». Дак. фільм.
**12.50** «Суседзі».
**13.00** «АРТіШОК». Кінарэжысёр Андрэй Кудзіненка.
**13.30** «Эпоха. Падзеі і людзі».
**14.10** Канцэрты ў Вялікай студыі Дома радыё. Гітарыст Павел Кухта.
**15.30** «Я - дзяўчынка на шары..» Дакументальны фільм.
**16.00** «Аксана Волкава. A prima vista». Дакументальны фільм.
**16.25** «Іван Мележ. Туманы над багнаю». Дакументальны фільм.
**16.55** «Георгій Жукаў. Вайна і мір Маршала Перамогі». Дакументальны фільм.
**17.25** «Паспець да ночы». Фільм-партрэт кінарэжысёра Віталя Чацвярыкова.
**17.55** «Гэты дзіўны свет..» Кампазітар і спявак, урадженец Беларусі Чэслаў Немен.
**18.25** «Разуменне ў фарбах». Дакументальны фільм.
**19.00** «Вясна Мікельанджэла». Гісторыка-біяграфічная драма. 1-я серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Вясна Мікельанджэла». Гісторыка-біяграфічная драма. 2-я серыя.
**22.15** Сусветнае кіно. «І святло ў цемры свеціць».
**00.05** «Эпоха. Падзеі і людзі».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі..».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.05** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.40** «Кодэкс гонару».
**17.25** Прэм'ера. «З песні слоў не выкінеш!».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Версія-3».
**23.20** Дакументальны фільм «Ельцын. Тры дні ў жніўні».
**01.05** «Здані Дому Раманавых».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**05.20** «Зроблена ў СССР».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** «Эксперыментатары».
**08.35** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** На шашлыкі.
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.05** М/ф «Дарослыя дзеці».
**11.25** Т/с «Не пакідай мяне, каханне».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Т/с «Два колеры запалу».
**19.40** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.25** М/ф «Мой лепшы сябар».
**22.10** М/ф «Падзея».
**00.35** Т/с «Не пакідай мяне, каханне».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак.
**08.45** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 13 серыя.
**09.10** «Тры шалёныя нулі», серыял: 11 серыя.
**09.40** «Машына зменаў», тэлесерыял: 11 і 12 серыі.
**10.40** Форум (ток-шоу).
**11.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.55** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**12.25** «Бландзінка», серыял: 4 серыя.
**13.10** «Час гонару», серыял: 49 серыя.
**13.55** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**15.25** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца бункера Гітлера».
**16.15** «Quo Vadis», тэлесерыял: 5 серыя.
**17.05** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 9 серыя.
**17.30** «Уладзімір Драбо – Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**18.00** «Запрашэнне на танец», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**19.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**20.15** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**23.25** Невядомая Беларусь: «Прадвесне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**23.55** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 13 серыя.
**00.40** Аб'ектыў.
**01.00** МакраФон: «Рок-карона: запісы 1997–1999 гг.».
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 1 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.15** Лірычная камедыя «Утаймавальніца тыграў» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Фільм «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР).
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Хронікі Нарніі: Леў, Вядзьмарка і Чароўная шафа» (ЗША-Вялікабрытанія).
**18.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.05** Прэм'ера! Камедыя «Сям'я» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыйны баявік «Містар і місіс Сміт» (ЗША).
**00.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

**ОНТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Прэм'ера. «Наталля Гундарава. Запомніце мяне такой…».
**12.40** Фільм «Самотным даецца інтэрнат».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Драма «Я-Сэм».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Камедыя «8 першых спатканняў».
**22.55** Прэм'ера. Фільм «Напісана Сяргеем Доўлатавым».

**СТВ**

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Пяты элемент». Францыя, 1997 г.



**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Насімі». 1974 г.
**14.40** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Таямніца рукапісу». Вялікабрытанія, 2007 г.
**23.00** «Якія людзі!».
**00.00** Фільм «Я так даўно цябе кахаю». Германія - Францыя, 2007 г.
**02.00** «Дакументальны праект».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.40** Мультфільмы.
**08.20** Фільм-казка «Агонь, вада і... медныя трубы» (СССР).
**09.45** Пазакласная гадзіна.
**10.00** Тэлебарометр.
**10.05** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Рыжык у Залюстаркоўі» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**12.30** Камедыя «На спіне ў чорнага ката» («Беларусьфільм»).
**14.20** Меладрама «Нахабніца» (Украіна). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**16.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Хакей. Кубак Салея. Фінал. Прамая трансляцыя.
**19.40** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Фантастычны баявік «Бунраку» (ЗША).
**23.25** Спорт-кадр.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**08.00** «Абіцель душы».
**08.30** Мультфільмы.
**08.55** «Альбарутэнія». Цяжкасці перакладу. Пра развіццё пісьменства.
**09.30** «Свята далёкай зоркі». Заслужаны дзеяч мастацтваў Рыгор Шаршэўскі.
**10.00** «Вясна Мікельанджэла». Гісторыка-біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі.
**13.00** «Наперад у мінулае».
**13.30** «З кошкі ўсё і пачалося».
**14.45** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**15.40** «Месца сустрэчы. Школа». Канцэрт.
**17.00** «Фантасмагорыі Паніна». Дакументальны фільм.
**17.15** «Магілёў. Усходняя сталіца Беларусі». Дакументальны фільм.
**17.40** «Браслаўшчына. Край Божай апекі». Дакументальны фільм.
**18.10** «Ад зямлі, ветру і сонца». Навукова-папулярны фільм.
**18.40** Сусветнае кіно. «І свята ў цемры свеціць».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Канцэрты ў Вялікай студыі Дома радыё. Гітарыст Павел Кухта.
**22.05** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны фільм.
**23.05** «Амністыя». Спектакль.

**НТВ**

**06.25** Серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.00** Сёння.
**13.15** «Дзень роспачы».
**15.05** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.45** Баявік «Кодэкс гонару-4».
**17.25** «З песні слоў не выкінеш».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Дэтэктыўны серыял «Версія-3».
**23.25** Прэм'ера. «Штурман па жыцці».
**00.15** «Прамень святла».
**00.45** «Школа зласлоўя».

**МИР**

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Аэрасвет».
**09.25, 05.15** «Даведнік».
**09.55** «Ежа».
**10.20** «Незорнае дзяцінства».
**10.55, 23.40** М/ф «Скарбы старажытнага храма».
**13.15** М/ф «Замежны жаніх».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.45, 21.00** Т/с «Вакзал».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.50** М/ф «Мядовы месяц».
**02.00** М/ф «Падзея».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**07.55** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.10** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.40** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 6 серыя.
**09.10** «Тры шалёныя нулі», серыял: 12 і 13 серыі.
**10.05** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 13 серыя.
**10.30** Басанож па свеце (спазнавáўчая праграма).
**10.55** «Глыбокая вада», серыял: 12 серыя.
**11.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 13 серыя.
**12.05** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**14.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.15** «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм, 2006 г., Польшча: ч. 1 і 2.
**17.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.15** Без рэтушы: «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.05** Прыватная калекцыя (сустрэчы з людзьмі культуры).
**18.35** «Журналісты», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.40** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**20.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**23.10** «Палітыканы», серыял: 1 серыя.
**23.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

МОЎНАЯ ПРАБЛЕМА

# МАЛДАЎСКАЯ ЦІ РУМЫНСКАЯ?

Алег НОВІКАЎ

**Канстытуцыйны суд Малдовы паабяцаў на працягу месяца канчаткова высветліць, на якой мове размаўляюць малдаване — на малдаўскай або румынскай.**

Як паведамляе прэса, вердыкт Канстытуцыйнага суда будзе вынесены 12 верасня. Разабрацца ў гэтым складаным пытанні папрасіла суддзяў дэпутат парламенту Ганна Гуцу, вядомая сваімі прарумынскімі поглядамі.



Ганна Гуцу

Пытанне сапраўды трэба вырашаць. Малдаўская мова прызнаная дзяржаўнай, аднак у школах вывучаюць румынскую. «Гісторыя румын» — так называецца галоўны гістарычны падручнік.

Акрамя таго, большасць сучасных лінгвістаў па моўных крытэрах не прызнаюць асобнай малдаўскай мовы, а кажуць пра малдаўскі дыялект румынскай мовы, нароўні з іншымі рэгіянальнымі румынскімі дыялектамі. Нормы малдаўскай мовы цалкам адпавядаюць нормам літаратурнай румынскай мовы. Гэты факт указвае на тое, што ў румынскай мовы папросту два лінгвонімы — «румынская нацыянальная мова» і «малдаўская нацыянальная мова». Прычым «малдаўскай» мова завецца ў дачыненні да мовы, на якой размаўляе насельніцтва Рэспублікі Малдова. Гэта азначае, што пісьмовая малдаўская мова, уключаючы ўсе галіны мовазнаўства, ідэнтычная румынскай.

У дадатак у свой час правальваліся ўсе маштабныя спробы стварэння нормаў літаратурнай малдаўскай мовы, адрознай ад літаратурнай румынскай. Гэты працэс найбольш актыўна развіваўся спачатку на тэрыторыі Малдаўскай аўтаноміі ў складзе Украінскай ССР з 1924 па 1940 год.

У ліпені 1927 года Малдаўскім навуковым камітэтам былі апублікаваны правілы правапісу, заснаваныя на «Малдаўскай граматыцы». Гэтыя правілы ў сваю чаргу грунтаваліся на мясцовых дыялектах і ўяўлялі сабой самую радыкальную спробу стварэння састойнай «у тым ліку антыбуржуазнай» малдаўскай мовы, цалкам адрознай ад румынскай. Гэта пытанне між іншым вырашалася за кошт шматлікіх русізмаў і неалагізмаў.

Аднак хутка ініцыятыву ў гэтай сферы перахапілі т. зв. «руманізатары», якія сцвярджалі, што пакуль значна больш актуальнае пытанне — агітацыя жыхароў Бесарабіі за вяртанне ў СССР. Таму пра антыбуржуазны варыянт малдаўскай мовы забыліся. Руманізатары нават дабіліся лацінізацыі малдаўскага правапісу. Лацінізацыю ў 1938 годзе прыпынілі, аднак малдаўская граматыка і сінтаксіс аказалася дастаткова блізкай да румынскай.

Працэс працягнуўся пасля ўваходжання Малдовы ў СССР. Паколькі прыднястроўскія дыялекты шматлікім малдаванам былі малазразумелыя, Леанід Брэжнеў — тагачасны першы сакратар Малдаўскай Кампартыі, пастанавіў у 1956 годзе, каб літаратурная норма базіравалася на дыялектах цэнтральнай Малдовы, дзе русіфікацыя была не такой моцнай, як на берагах Днястра.

31 жніўня 1989 года новы некамуністычны ўрад Малдаўскай ССР (па патрабаванні ўдзельнікаў дэманстрацыі, арганізаванай Народным Фронтам Малдавіі) адмяніў на тэрыторыі рэспублікі кірылічны алфавіт і ўвёў румынскі лацінскі правапіс для малдаўскай мовы.




Як бачым, сама гісторыя, быццам, даводзіць, што асобнай малдаўская мовы не існуе. Аднак у асяроддзі лінгвістаў і гісторыкаў ёсць альтэрнатыўны пункт гледжання. Па-першае, кірылічны правапіс — больш класічны для румын і малдаван, а само сярэднявечнае Малдаўская княства доўгі час было цэнтрам культуры сярод румынскіх зямель. Так, вядомы малдаўскі драматург Іён Друцэ заявіў, што малдаўская мова — «гэта бабуля румынскай мовы». Румынія перайшла на лацінку толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Акрамя таго, як сведчаць дакументы, пасля далучэння Малдовы да Румыніі ў 1918 годзе ў краі назбіралася шмат моўных праблем. Малдаване, якія былі адарваныя ад культурных і лінгвістычных працэсаў за Прутам, мелі шматлікія праблемы як з румынскай лексікай, так і з лацінскім правапісам. Прапагандысты румынскай мовы ў Бесарабіі прызнавалі, што гаворка бесарабскіх малдаван вельмі адрозніваецца ад бухарэсцкай нормы, і вымушаныя былі ўлічваць гэта ў сваёй дзейнасці — аж да выдання некаторых газет на кірыліцы.

Некаторыя філолагі кажуць пра наяўнасць у малдаўскай мове шматлікіх славянскіх запазычанняў. Пра тое, што ў румынскай, у адрозненне ад малдаўскай, на значна больш цыганскіх запазычанняў. Акрамя таго, існуе спецыфіка малдаўскіх гаворак Левабярэжжа Днястра. Што да пісьмовай гаворкі, то тут выдзяляюць цікавы факт: публіцыстычныя стылі ў Румыніі і Малдове абсалютна розныя, хоць усе яны напісаны на румынскай літаратурнай мове. Журналіст з Малдовы піша тэкст паводле структуры рускага тэксту, у той час як румынскі журналіст — паводле структуры французскага. Усё гэта — спадчына культурнага ўплыву Францыі і Расіі адпаведна на Румынію і Малдову.

Безумоўна, галоўны аргумент на карысць захавання дзяржаўнага статусу малдаўскай мовы палягае ў сферы палітыкі. У Малдове існуе шырокі палітычны рух за Унію — уключэнне краю ў склад Румыніі. Не дзіўна, што наяўнасць у малдаўскай канстытуцыі параграфу пра малдаўскую мову трактуецца як важная прававая перашкода для інкарпарацыі.

Абаронцы малдаўскай мовы звяртаюць увагу на яшчэ адну дэталь. Прызнанне румынскай мовы дзяржаўнай можа паставіць крыж на ідэях уз'яднання з Прыднястроўскай Малдоўскай Рэспублікай. Цяпер атрымаецца, што ў Прыднястроўі і Малдове жывуць розныя народы. Нагадаем, што адной з афіцыйных моваў у Цірасапалі з'яўляецца малдаўская.

Акрамя таго, фармальна, мова можа называцца як заўгодна. Самы актуальны прыклад — Чарнагорыя, якая стагоддзямі ўваходзіла ў арэал выкарыстання сербскахарвацкай мовы. У 2006 годзе Чарнагорыя прагаласавала на рэферэндуме за аддзяленне ад Сербіі, стварэнне незалежнай дзяржавы. У 2007 годзе з прыняццем новай Канстытуцыі дзяржаўная мова Чарнагорыі стала называцца чарнагорскай. Іншымі словамі, у першую чаргу, важная моўная самасвядомасць саміх носьбітаў.

Як бы там ні было, практычна ўсе палітолагі канстатуюць раскол малдаўскага «этнапсіхалагічнага жыцця», калі тубыльцы называюць сябе румынамі або малдаванамі. У дадатак румыністы вінавацяць малдаван у тым, што апошнія гуляюць на карысць Масквы, а малдаване абвінавачваюць румыністаў, што тыя працуюць на Бухарэст.

Абодва лагеры кажуць ультыматыўным і непрымірымым тонам, што ставіць Канстытуцыйны суд у складанае становішча. Рашэнне на карысць адной з фракцый будзе апрыёры ў штыкі прынятае яе апанентамі. У кантэксце нестабільнай палітычнай сітуацыі і перспектывы магчымых пазатэрміновых парламенцкіх выбараў, тэма мовы можа стаць важнай падчас наступнай выбарчай кампаніі. Магчыма, гэта патрэбна як уніяністам, так і левай апазіцыі. Па сутнасці, ганарыцца сацыяльна-эканамічнымі прарывамі не могуць ні першыя, ні другія, і, адпаведна, кансалідаваць свой электарат напярэдадні галасавання яны здольныя выключна за кошт тэмы вайны ідэнтычнасці.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Што ж даў Мытны Саюз беларусам? Плюсы ад удзелу ў ім з'яўляюцца хутчэй хрэстаматыйнымі, і больш чуюцца з вуснаў чыноўнікаў. А вось мінусы можа назваць кожны жыхар краіны. З уступленнем у МС кошты ў крамах Беларусі ўвесь час растуць, самыя каштоўныя беларускія активы скупляюць расійскія канцэрны, бензін увесь час даражэе, а беларускім прадуктам на расійскім рынку канкураваць усё цяжэй.

**«Dni» (Украіна)**

Няма адзінства адносна будучай АЭС і ў беларускім грамадстве. Грамадскія актывісты і апазіцыя звязваюць небяспеку аб'екта, які будуецца, з асаблівасцямі цяперашняй улады. Ва ўладзе — непрафесіяналы, якім абыякава ўсё, акрамя ўласнага дабрабыту. Ад улады, якая культывуе фармалізм і дылетантызм, складана чакаць выканання гарантый бяспекі, нават калі яны сапраўды закладзены ў самім праекце. У апошні час у якасці прыкладу прыводзяць сітуацыю з «афрыканскай чумой» свіней. Калі б улада сапраўды клапацілася пра народ, яго здароўе і пра дабрабыт, а не пра выкананне планаў па вытворчасці і экспарту свініны, то ўсе неабходныя меры засцярогі былі б прыняты пры першым жа факце з'яўлення чумы. Тады далейшы распаўсюд яшчэ можна было б спыніць і пазбегнуць пагалоўнай ліквідацыі жывёл у асабістых гаспадарках. Але ўлада доўгі час рабіла выгляд, што АЧС няма. Такой уладзе нельга даваць у рукі мірны атам, сцвярджаюць апаненты прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

**«Независимая газета» (Расія)**

У доўгатэрміновай перспектыве кошты на ўгнаенні, вядома, будуць змяншацца. Але ў беларускага кіраўніцтва пры такім росце аб'ёмаў паставак будзе магчымасць у найбліжэйшыя год-два атрымаць рэкордны прыбытак. А там, глядзіш, і арабы зразумеюць, што бізнэс ім блізкі, і купяць у Лукашэнкі буйны пакет акцый «Беларуськалія». Беларусь жа выкарыстоўвае выгандлеваныя грошы для таго, каб яшчэ некалькі гадоў падтрымліваць павольны, але ўстойлівы рост заробкаў у дзяржсектары і пенсій. Лукашэнка дзякуючы гэтаму выйграе чарговыя прэзідэнцкія выбары, якія павінны адбыцца ў 2015 годзе. А што потым, калі грошы будуць праедзеныя, а планавыя папаўненні бюджэту праваляцца? А пра гэта пакуль не думаюць. У Беларусі прызвычаіліся жыць пяцігодкамі і будаваць планы толькі на гэты тэрмін. Потым вынаходлівы Лукашэнка зноў што-небудзь прыдумае.

**«SLON» (Расія)**

На жаль, даводзіцца адзначаць, што мінскі афіцыёз вельмі паслядоўны ў сваім непрыманні ўласнага абавязку саюзніка. У дзень 5-й гадавіны паўднёваасецінскай трагедыі ў беларускіх дзяржаўных СМІ і з вуснаў афіцыйных асобаў не было сказана ні слова пра вайну «08.08.08» (…) Больш за тое, складаецца ўражанне, што беларускія ўлады ўсяляк агароджваюць грамадзян Беларусі ад любой інфармацыі пра тую вайну. Нават фільмы пра тыя падзеі (дакументальны і мастацкі) былі паказаны па беларускім тэлебачанні глыбокай ноччу, затое напярэдадні па тэлеканалах цынічна і мэтанакіравана транслявалі надакучлівую рэкламу грузінскай мінеральнай вады «Баржомі» і чарнаморскіх курортаў у Батумі. Да каўказскай вайны 2008 года афіцыйны Мінск займае не проста двухсэнсоўную пазіцыю. Беларускае кіраўніцтва, па сутнасці, прыняло варожы Расіі бок, і пакуль гэта будзе працягвацца, яго нельга адносіць да ліку надзейных саюзнікаў. Гэта непрыемна ўсведамляць, але такая сумная рэчаіснасць.

**«Materik» (Расія)**

У Беларусі плануецца перавесці непрыватызаванае жыллё ў разрад камерцыйнага. Эксперты адзначаюць, што навіна можа стварыць праблемы для малазабяспечаных пластоў насельніцтва. Падганяць людзей указамі прыватызаваць жыллё і тым самым дадаткова папаўняць бюджэт — занятак бесперспектыўны. Тыя людзі, якія дагэтуль не прыватызавалі жыллё, як правіла, самі маюць патрэбу ў сацыяльнай падтрымцы, і цісныць на іх няма сэнсу. Выганяць кватэраздымшчыкаў з непрыватызаваных кватэр таксама ніхто не будзе. У выніку новы ўказ прынясе больш хаосу і неразумення, чым карысці.

**«Deutsche welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАНАДА. ХТО ПАДСТАВІЎ ДЭСАНТНІКАЎ?

Нягледзячы на не надта круглую дату, у Канадзе з новай сілай успыхнулі дэбаты вакол падзей 19 жніўня 1942 года. У гэты дзень войскі антыгітлераўскай кааліцыі паспрабавалі арганізаваць дэсант у акупаванай немцамі Францыі пад горадам Д'еп. Аперацыя закончылася правалам. Найбольш ахвяраў прыйшлося на канадскія часткі. З пяці тысяч канадскіх салдат прыкладна 900 былі забітыя, а яшчэ 2000 параненыя або трапілі ў палон. Цяпер гісторыкі лічаць, што тых канадскіх жаўнераў накіравалі на смерць. Проста Лондану і Вашынгтону было патрэбна неяк даводзіць Сталіну, што яны думаюць пра Другі фронт. На самай справе, для сапраўднай маштабнай аперацыі саюзнікі гатовыя не былі. На карысць гэтай версіі сведчаць малая колькасць удзельнікаў рэйду на Д'еп. Чэрчыль даслаў туды ўсяго адзін дывізіён (10 тысяч чалавек), якім, дарэчы, супрацьстаяла ўсяго 1 500 немцаў. Таксама ёсць версія, што саюзнікі проста вывучалі, як працуе берагавая абарона Вермахту. Аднак самую незвычайную версію прапанавалі французскія СМІ. Яны сцвярджаюць, што большасць забітых пад Д'епам канадскіх дэсантнікаў — хлопцы з франкамоўнай правінцыі Квебек. Паколькі Францыя лёгка капітулявала ў 1940 годзе, а французская калабарацыя была вельмі моцнай, вялікай надзеі на французаў не было. У такой сітуацыі брытанцы вырашылі пазбавіцца патэнцыйна нелаяльных франкамоўных канадцаў, даслаўшы іх пад нямецкія кулі.

**Паводле французскай прэсы**

### КАРЭЯ. СЕМ'ЯМ ДАЗВОЛЯЦЬ СУСТРАКАЦЦА

Упершыню з 2007 года чальцы карэйскіх сямей, якія падзеленыя мяжой паміж Паўднёвай і Паўночнай Карэяй, атрымаюць магчымасць сустрэцца. Праблема раз'яднаных сямей уключана ў павестку дня перамоваў КНДР і Рэспублікі Карэя, якія ўжо пачаліся. Акрамя таго, Пхеньян гатовы дапусціць да сябе турыстаў з Поўдня. Важны момант — ініцыятарамі прапаноў пра лібералізацыю памежнага рэжыму выступіў менавіта ўрад КНДР. Такі прыступ пацыфізму выглядае трошкі дзіўным на фоне таго, што адбывалася на Карэйскім паўвостраве гэтай вясной, калі КНДР абвясціў пра разрыў дамовы пра часовы мір з паўднёвымі карэйцамі, а Злучаныя Штаты накіравалі ў рэгіён дадатковыя вайсковыя сілы. Так ці інакш, прагрэс у перамовах відавочны. Бакі нават пачалі абмяркоўваць канкрэтнае месца, дзе могуць сустракацца родныя. У выпадку, калі візавы рэжым для падзеленых сем'яў будзе зняты, каля 22 тысяч карэйцаў змогуць пабачыць сваіх родных.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ВЯРТАННЕ ОСВАЛЬДА МОСЛІ

У Вялікабрытаніі адроджаная партыя Освальда Мослі. Освальд Мослі, нагадаем, — вядучы брытанскі фашыст 1930-х гадоў. Яго Брытанскі саюз фашыстаў, дзякуючы напружанай сацыяльнай-палітычнай сітуацыі таго часу, успрымаўся сучаснікамі як вельмі сур'ёзная сіла. Так, сябрамі руху «чорных кашуляў» (адна з назваў брытанскіх фашыстаў) былі больш за 50 тысяч чалавек. Калі пачалася Другая сусветная вайна, Брытанскі саюз фашыстаў, зразумела, забаранілі, а самога Мослі інтэрнавалі. Пасля заканчэння вайны спробы Освальда адрадзіць былую структуру вялікага поспеху не мелі. І вось паўстала новая рэдакцыя Брытанскага саюзу фашыстаў — праўда, цяпер ён называецца проста Новы брытанскі саюз. Акрамя таго, у кіраўніцтве партыі — не арыстакраты, якім быў той жа Мослі, а былыя актывісты правых партый, якія пасварыліся з кіраўніцтвам і вырашылі стварыць свой праект. З'яўленне Новага брытанскага саюзу палітолагі звязваюць з новай хваляй ісламафобіі, якую справакавала брутальнае забойства ісламістамі на адной са сталічных вуліц брытанскага жаўнера. Скарыстацца кан'юнктурай, відавочна, вырашылі і нашчадкі Мослі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ЯК ЧЭКІСТЫ ПРЫДУМАЛІ ЗАПАРОЖАЦ



Украінскі палітолаг Міхаіл Палій выступіў з арыгінальнай версіяй паходжання знакамітай савецкай машыны «Запарожац», якая, як вядома, выраблялася на Запарожскім аўтамабільным заводзе (ЗАЗ). У адным з інтэрв'ю, развіваючы тэму прыгнёту ўкраінцаў у савецкі час, Палій заявіў, што часткай аперацыі па дыскрэдытацыі Украіны быў менавіта выпуск тых самых машын. На яго думку, КДБ спецыяльна вырашыла назваць вельмі прымітыўны аўтамабіль сакральным для ўкраінцаў словам «запарожац». Такім чынам казацкая традыцыя набывала ў грамадстве камічны падтэкст. Нельга не прызнаць, што розныя якасці аўтамабіля «Запарожац» сапраўды былі часткай сатыры савецкай эпохі. Аднак тэорыя аўтамабільнай дыверсіі КДБ супраць казацкага міфу выглядае, на думку гісторыкаў, занадта складанай. У СССР былі прадукты і тавары, значна горшыя за прадукцыю запарожскіх аўтабудаўнікоў, і дыскрэдытаваць слова «запарожац» можна было, назваўшы ім тую ж мэблю або прадукцыю тэкстылю, а не будаваць цэлы завод і выпускаць аўтамабілі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

ПАРТЫІ

# АСАНЖ ХОЧА СТАЦЬ СЕНАТАРАМ

*Алег НОВІКАЎ*

**Першыя крокі створанай Джуліянам Асанжам партыі WikiLeaks Party сапсавалі яго імідж паслядоўнага дэмакрата і абаронцы прынцыпаў празрыстасці ў палітыкі. Але не пазбавілі яго мары стаць сенатарам.**

Джуліян Асанж мае аўстралійскі пашпарт. І хаця з ліпеня 2012 года ён хаваецца ў пасольстве Эквадора ў Лондане ад пераследу шведскіх уладаў (у Швецыі Асанжа абвінавацілі ў замахах на згвалтаванне), паводле аўстралійскіх законаў ён мае права ўдзельнічаць у палітычным жыцці краіны.

Яшчэ ў студзені Асанж заявіў пра намер стаць сенатарам Аўстраліі ад штату Вікторыя. Ён лічыць, што ў парламенце яго радзімы патрэбна прысутнасць «асамблеі палітычных актывістаў, якая будзе ў стане абараняць публічныя інтарэсы». Такую праблему, на яго думку, можа вырашыць новая партыя WikiLeaks.

На момант абвяшчэння ідэі пра стварэнне новай партыі ў Асанжа ўжо было шмат прыхільнікаў сярод аматараў вольнага інтэрнэту, сяброў лявацкіх арганізацый. Шмат простых аўстралійцаў таксама сімпатызуюць суайчыніку. Адпаведна апытанням, якія былі праведзеныя ў красавіку, патэнцыйна каля 23 працэнтаў аўстралійцаў былі гатовыя галасаваць за партыйны спіс Асанжа, калі б ён быў створаны. Сярод людзей, маладзейшых за 30 гадоў, гэта лічба ўвогуле складае 36 працэнтаў. У Аўстраліі папулярная думка пра тое, што абвінавачанні ў замахах на згвалтаванне шведак — папросту помста спецслужбаў розных краін на адрас Асанжа. Адпаведна, у партыю Асанжа на цяперашні момант запісалася дзве тысячы чалавек. Адначасова нават агучваецца ідэя стварэння падобнай партыі ў іншых краінах.

Аўстралія — не Беларусь, кожнае аб'яднанне грамадзян тут рэгіструюць вельмі хутка. Ідэю стварэння партыі Асанж агучыў у студзені, а ўжо ў сакавіку партыя атрымала рэгістрацыю. Выбары ў аўстралійскі Сенат, які складаецца з 76 сябраў, прызначаныя на 7 верасня. Партыя WikiLeaks выстаўляе сваіх кандыдатаў у трох штатах.

Адзін з галоўных пунктаў праграмы, з якой прыхільнікі Асанжа балатуюцца ў Сенат, можа падацца забаўным: журналіст — аўтар публікацыі — мае права не ўказваць крыніцу інфармацыі свайго матэрыялу. Аднак, магчыма, гэта звязана з асаблівасцямі журналістыкі ў Аўстраліі. Тут 98 працэнтаў СМІ належаць тром карпарацыям, якія, натуральна, звязаныя з палітычным істэблішментам. Асанж прапануе стварыць новы вольны медыя-рэсурс, які падарве пазіцыі манапалістаў на рынку СМІ.

Увогуле, паводле праграмы, партыю WikiLeaks можна смела аднесці да партый левага накірунку. Напрыклад, WikiLeaks асуджае кантакты аўстралійскіх сілавікоў з ЦРУ і ФБР. Больш за ўсё ў праграмных дакументах гаворыцца пра неабходнасць празрыстасці прыняцця палітычных рашэнняў, прычым на самым высокім адміністратыўным узроўні. Шмат увагі надаецца інтэрнэту. Натуральна, у выпадку перамогі сенатары ад партыі WikiLeaks будуць патрабаваць, каб аўстралійскі МЗС вырашыў праблему заснавальніка партыі і гарантаваў яму бяспеку.

Партыя, якая ўпершыню ідзе на выбары, адразу гучна заявіла пра сябе. Аднак цяпер большасць прадстаўнікоў грамадскасці крытыкуе аўтара праекту WikiLeaks.

**Аўстралія — не Беларусь, кожнае аб'яднанне грамадзян тут рэгіструюць вельмі хутка. Ідэю стварэння партыі Асанж агучыў у студзені, а ўжо ў сакавіку партыя атрымала рэгістрацыю**

Справа ў тым, што адзін з філіялаў партыі агучыў ідэю кааліцыі з дзвюма партыямі праварадыкальнага накірунку. Непасрэдна партыя збіраецца блакавацца ў штаце Новы Паўднёвы Уэльс з нацыяналістычным аб'яднаннем «Australia First» («Аўстралія перш за ўсё») і папулістамі з партыі «Shooters and Fishers» («Паляўнічыя і рыбакі»). Зроблена гэта было ў адпаведнасці з мясцовымі законамі пра выбары, паводле якіх кожная партыя павінна вызначыць дзве найбольш ідэйна блізкія да сябе палітычныя структуры. У такім выпадку, калі WikiLeaks Party апярэдзіць па выніках галасавання нацыяналістаў і паляўнічых-рыбакоў, то галасы, пададзеныя за тыя партыі, аўтаматычна прыплюсуюцца да здабытку партыі Асанжа.

Але электарат такую тактыку не зразумеў. «Australia First» выступае за тое, каб скончыць з мультыкультурнай палітыкай і цалкам забараніць іміграцыю. Джым Салем, лідар партыі — былы неанацыст, які паспеў у 1980-х гадах пасядзець за кратамі за напад на аўстралійскі філіял Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу.

«Shooters and Fishers» бачыць у спробах абмежавання палявання і лоўлі рыбы праяву змовы феміністак. Быццам, забіваць жывёл і вудзіць рыбу — гэта натуральны рэфлекс мужчынаў. Таму частка Аўстраліі павінна быць зарэзерваваная на тое, каб прадстаўнікі моцнага полу маглі заўсёды задавальняць патрэбы ў гэтых занятках. Цяпер аўстралійскі ўрад усё большай колькасці тэрыторый надае статус рознага кшталту запаведнікаў і паркаў.

Самі фанаты заснавальніка WikiLeaks у пошуках апраўдання спасылаюцца на ўстаноўку — новая партыя не павінна ствараць кааліцыі з партыямі мэйнстрыму і павінна шукаць падтрымку ў падобных да сябе малых партыях. «Кандыдаты не павінны быць палітыкамі», — тлумачыў Джуліян падчас адной са шматлікіх скайп-канферэнцый.

Такі выбар WikiLeaks Party шмат каго расчараваў. Галоўнымі сімпатызантамі Джуліяна Асанжа ў Аўстраліі былі левыя. Яны нават віталі стварэнне новай палітычнай структуры ў надзеі на тое, што яна зможа разбурыць двухпартыйную сістэму (Аўстраліяй даўно ўжо кіруюць па чарзе лейбарысты і лібералы). Напрыклад, вельмі шмат акцый у падтрымку заснавальніка WikiLeaks правёў Скот Лудлам, адзін з лідараў мясцовых Зялёных. У спецыяльнай заяве абураныя Зялёныя нават заклікалі ўсіх левых выбаршчыкаў галасаваць супраць Асанжа.

У прынцыпе, казаць пра тое, што WikiLeaks цалкам сябе дыскрэдытавала сярод сваіх патэнцыйных выбарцаў левых поглядаў, рана. Аднак сам факт супярэчнасцей поглядаў актыву партыі на яе задачы вельмі непрыемны.

Усё гэта падобна на працэсы ўнутры рознага кшталту «партый піратаў», якія ствараюць апошнім часам прыхільнікі вольнага інтэрнэту. Іх заявы пра неабходнасць стварэння празрыстых партструктур вельмі падобныя на словы Джуліяна. «Партыя будзе камбінацыяй лакальных лідараў, якія маюць моцныя кантакты ў грамадскім руху і, адпаведна, падтрымку з яго боку. Партыя стане дэцэнтралізаванай структурай без рознага кшталту апаратчыкаў. Партыя павінна быць празрыстай, антыкарупцыйнай і ідэалагічна адзінай», — кажа Асанж.

Аднак, як сведчыць пірацкі вопыт, ідэя празрыстасці — рэч занадта абстрактная. Пад штандарамі «піратаў» можа збірацца хто заўгодна, нават фашысты. Такая ідэалагічная салянка прыводзіць да ўнутранай канфрантацыі, што заканамерна псуе рэйтынг партыі.

Праўда, як дэманструе вопыт тых жа «піратаў» у Германіі, каб разабрацца ў прыродзе новых партый, людзям патрэбны час. Таму першыя выбары WikiLeaks цалкам можа выйграць. Але шмат чаго тут будзе залежыць ад таго, ці дапусціць на выбары самога Джуліяна Асанжа, паколькі ён не жыў апошнім часам на радзіме столькі, колькі патрабуе мясцовае выбарчае заканадаўства для ўдзелу ў выбарах. Спіс кандыдатаў у сенатары павінен быць агучаны да канца жніўня.

НАВУКА І БІЗНЭС

# ТАЯМНІЦЫ ЖАРЭСА АЛФЁРАВА

Алег НОВІКАЎ

**Жарэса Алфёрава, аднаго з вядучых лабістаў беларускага рэжыму, падазраюць у стварэнні ўласнага бізнэс-клана.**



Менавіта супярэчнасць паміж публічнымі заявамі і ўчынкамі стварае падазрэнні ў тым, што ў Жарэса ёсць бізнэс-таямніцы. У тым ліку гэта тычыцца і тэмы грамадска-палітычнай мадэлі ў Беларусі, якую Алфёраў разглядае ледзь не як арыенцір

Нагодай для таго, каб журналісты звярнулі ўвагу на эканамічную дзейнасць навукоўца, сталі нядаўнія дэбаты вакол праекта рэформы Расійскай Акадэміі Навук (РАН). Трэба прызнаць, што гэта вельмі супярэчлівы праект, які выклікаў шмат спрэчак і альтэрнатыўных прапаноў.

Рэформа расійскай навуковай сістэмы наспела даўно: сярэдні ўзрост доктара навук — 65 гадоў, кандыдата навук — 53 гады, за апошнія пяць гадоў колькасць аспірантаў паменшылася амаль на чвэрць. Нарэшце, кожны чацвёрты супрацоўнік ва ўзросце да 35 гадоў заняты на няпоўную стаўку, паколькі вымушаны падзарабляць у іншым месцы.

У шэрагах апанентаў рэформы апынуўся і Алфёраў. Ён нават у знак пратэсту супраць рэформы РАН пакінуў Грамадскую раду пры Міністэрстве адукацыі. Адначасова Алфёраў прапанаваў сваё бачанне рэформы акадэмічнай сферы: «Рэформа ў РАН — справа саміх навукоўцаў!»

Сутнасць праекта Алфёрава была выкладзена роўна год таму. На прэзідыуме пецярбургскага Навуковага цэнтра РАН нобелеўскі лаўрэат прапанаваў змяніць яго статут, стварыць Санкт-Пецярбургскае аддзяленне РАН, каб ужо ў 2014 годзе асобным радком патрапіць у дзяржаўны бюджэт.

Алфёраў таксама выступіў за працяг практыкі дзяржаўных датацый для навукі па прыкладу савецкіх часоў. «Самая важная задача, якая стаіць перад намі, — зрабіць навуку запатрабаванай. Без гэтага не вывесці з цяперашняга бядотнага становішча. Са шматгадовага савецкага досведу мы выдатна ведаем, што калі навука запатрабавана, то заўсёды з'яўляюцца сродкі на рэалізацыю навуковых распрацовак і даследаванняў. Такія ўмовы і трэба стварыць у нашай краіне сёння», — лічыць навуковец. Здаецца, усё правільна.

Але прэса мяркуе, што за крытыкай на адрас рэформы ўтойваецца матэрыяльная зацікаўленасць Жарэса Іванавіча. Дзякуючы дэбатам вакол праекта рэфармавання РАН нечакана сталі вядомыя падрабязнасці некаторых працэсаў у навуковай супольнасці. Высветлілася, што асобныя энергічныя навукоўцы ў зацятай барацьбе, выкарыстоўваючы сваю непасрэдную блізкасць да Пуціна, стварылі магутныя кланы, якія атрымалі ў сваё распараджэнне велізарную ўласнасць і дзяржаўныя прэферэнцыі. Задуманы праект рэформы (нават калі ён не аптымальны) так ці інакш паставіць гэтыя імперыі пад удар.

Сваю імперыю стварыў, па меркаванні некаторых СМІ, і нобелеўскі лаўрэат. Было б наіўна меркаваць, што гэта імперыя абмяжоўваецца ўзначаленым ім Навукова-адукацыйным комплексам «Санкт-Пецярбургскі фізіка-тэхнічны навукова-адукацыйны цэнтр». Так, старшынёй Кіравання фонду падтрымкі адукацыі і навукі (т. зв. «Алфёраўскага фонду»), а заадно і начальнікам аддзела інавацый і ўкаранення новых тэхналогій СПБ АУ НОЦ НТ РАН з'яўляецца бізнэсмэн, дырэктар ЗАТ «Ситроникс», сын Жарэса — Іван Алфёраў. Ён раз'язджае па Пецярбургу на навароачанай «Бэнтлі» і руліць прадпрыемствам, якое стварае сім-карты амаль для ўсіх тэлефонных кампаній Расіі.

Цікава, што Іван Алфёраў, які пачынаў з арэнды ў Фізіка-тэхнічнага інстытута ім. Іофэ гаража, нядаўна апынуўся героем WikiLeaks. Як паведамляецца ў засакрэчаных зводцы амерыканскага амбасадара, на сустрэчы з ім досыць адкрыта выказваюцца розныя прадстаўнікі сучаснай навукі. Прадстаўнік «навуковага» клана, як інфармуе амбасадар, распавёў: «Шматлікія акадэмікі старэйшага ўзросту ўдзельнічаюць у бізнэсе, выкарыстоўваючы ўласнасць Акадэміі навук. Напрыклад, Алфёраў паклапаціўся пра тое, каб яго сын кіраваў рэстаранамі і сталовымі ў памяшканнях Акадэміі ў Санкт-Пецярбургу». «Не жадаючы адмаўляцца ад гэтых сумнеўных крыніц прыбытку, службоўцы РАН хаваюцца за шчытом сумленнасці і высакароднасці навукі пры вядзенні барацьбы з Міністэрствам адукацыі і навукі», — каментуе паведамленне сайт «Русский Репортёр».

Не забылася прэса і тое, што Жарэс Алфёраў з'яўляецца сустаршынёй Кансультатыўнай навуковай рады фонду «Сколкава». Як вядома, «Сколкава» ў апошні час у Расііператварылася ў сінонім слова «распіл». Так, у лютым 2013 года стала вядома пра распачацце Следчым камітэтам крымінальнай справы па арт. 160 Крымінальнага кодэкса (растрата) у дачыненні былога дырэктара фінансавага дэпартамента фонду «Сколкава». Экс-фінансіст фонду Кірыла Лугаўцоў, па версіі следства, незаконна патраціў 24 мільёны расійскіх рублёў, арандаваўшы нерухомасць у кампаніі, якая належыць яго маці.

Не зразумела, як постаць патрыёта, як называе сябе Алфёраў, суадносіцца з пасадай старшыні дзяржаўнай камісіі па пытаннях увозу на тэрыторыю РФ апрамененага ядзернага паліва. Супраць пераўтварэння Расіі ў звалку рэгулярна пратэстуюць эколагі, прыкоўваючы сябе да рэек на шляхах цягнікоў з радыеактыўнымі адыходамі з усёй Еўропы.

Наогул, менавіта супярэчнасць паміж публічнымі заявамі і ўчынкамі стварае падазрэнні ў тым, што ў Жарэса ёсць бізнэс-таямніцы. У тым ліку гэта тычыцца і тэмы грамадска-палітычнай мадэлі ў Беларусі, якую Алфёраў разглядае ледзь не як арыенцір для Расіі.

Напрыклад, цікавая рэакцыя лаўрэата (а хутчэй, адсутнасць рэакцыі) на рэформу Акадэміі Навук у Беларусі. Контуры рэформы Лукашэнка асабіста накідаў 4 жніўня на адмысловай нарадзе, прысвечанай гэтай праблеме. Нагадаем, асноўныя накірункі вызначаных пераўтварэнняў: «Плаціць шалёных грошай мы з 1 студзеня нікому не будзем. А навукоўцам — найперш, таму што навукоўцы — разумныя людзі, павінны зарабіць і сабе, і дзяржаве. Таму навошта ж мы будзем выкідваць з бюджэту грошы, не атрымліваючы належнай аддачы».

Што ж тычыцца фундаментальнай навукі, якая не абяцае хуткай аддачы, то пра яе развіццё ў Беларусі Лукашэнка прапануе падумаць асобна. Ён таксама лічыць, што неабходна канчаткова вызначыцца з лёсам фундаментальнай навукі. «У нас не такая вялікая і багатая краіна, каб развіваць шырокі спектр падобных даследаванняў. Пытанне ў тым, наколькі яны патрэбныя нам, гэтыя фундаментальныя даследаванні», — дадаў Лукашэнка. Апошняе ноў-хаў рэформы навукі па-беларуску — навукоўцы павінны самі шукаць сабе фундатараў, у тым ліку і за мяжой.

Зразумела, што радыкальна рынкавы праект Лукашэнкі цалкам супярэчыць больш этатысцкаму і леваму канцэпту Алфёрава, што, аднак, не прымусіла нобелеўскага лаўрэата асудзіць Аляксандра Рыгоравіча. Хоць, нагадаем, гаворка ідзе пра лёс навукі не дзе-небудзь, а на гістарычнай радзіме Жарэса Іванавіча.

Але Алфёраў зацята маўчыць, ад чаго мімаволі задаеш пытанне — няўжо і ў кантактах Алфёрава з Мінскам таксама ёсць таямніца?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ




### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ

Прэзідэнт Казахстана не толькі кіруе краінай, але і ўзначальвае галоўную афіцыйную партыю «Нур Атан». Гэты факт, відавочна, ударыў па іміджу прэзідэнта пасля скандалу вакол філіялу «Нур Атан» у горадзе Кызыларда. Тут аднапартыйцы Назарбаева патрабавалі ад сяброў партыі здаць грошы на правядзенне абразання хлопчыкаў-сіротаў. Акрамя таго, тым, хто прайшоў рытуал, ад імя партыі выдавалі бясплатны веласіпед. Больш таго, кадры абразання выклалі ў інтэрнэт, што і выклікала хвалю крытыкі з боку часткі казахскай грамадскасці. Справа не ў тым, што ўся гэта гісторыя з абразаннем нагадвае танны піяр. Папросту па сутнасці «Нур Атан» спрыяе пашырэнню ісламскіх каштоўнасцяў, хаця сам Назарбаеў катэгарычна выступае за падзел дзяржавы і рэлігіі. Пакуль, здаецца, Астана не вызначылася, як рэагаваць на незвычайную акцыю ў Кызыларздзе. Магчыма, таму, што ў бедных сем'ях тых хлопчыкаў сапраўды вельмі задаволеныя, што не давялося плаціць за рытуал. Між тым, мясцовыя апаратчыкі «Нур Атан» ужо пастанавілі абрэзаць да канца верасня 200 хлопчыкаў.



### АНТОНІА ЛОПЕС-ІСТУРЫС УАЙТ

Дэпутат Еўрапарламенту ад Іспанскай кансерватыўнай «Народнай партыі» вывеў цяперашні канфлікт Лондана і Мадрыда наконт прыналежнасці Гібралтару на якасна новы ўзровень. У інтэрв'ю, прысвечаным гібралтарскай праблематыцы, ён прапанаваў увесці спецыяльны падатак для кожнага, хто пераходзіць іспанскую мяжу, рухаючыся на Гібралтар. Такі падатак можа складаць 50 еўра. Грошай, якія можна будзе зарабіць такім шляхам, быццам, будзе дастаткова, каб пакрыць страты іспанскіх рыбакоў, якім гібралтарская адміністрацыя забараняе лавіць рыбу ў сваіх водах. Такая мера, безумоўна, нанясе вялікі ўдар па эканоміцы Гібралтара, якая звязана з эканомікай Іспаніі. Аднак гэта яшчэ не фінал. Дэпутат таксама лічыць, што ў Гібралтары знаходзіцца база па вырабу наркотыкаў, рынак збыту якіх, быццам, — уся Іспанія. Таксама, паводле яго слоў, брытанская калонія ёсць пунктам транзіту ў Іспанію нелегальнай зброі. Пакласці канец разгулу крыміналу, на думку палітыка, можа агульнаеўрапейскі рэферэндум па прыналежнасці Гібралтара. Нагадаем, што раней у самім Гібралтары ўжо праводзіўся плебісцыт, на якім абсалютная большасць грамадзян выступіла за захаванне цяперашняга статусу калоніі Вялікабрытаніі.

### ФРАНЦ МЮНТЭФЕРЫНГ

73-гадовы экс-кіраўнік Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі лічыцца сярод эсдэкаў вельмі аўтарытэтнай фігурай. Таму яго нечаканая крытыка на адрас Пеера Штайнбрука — эсдэкаўскага кандыдата на пасаду канцлера на верасьнёўскіх парламенцкіх выбарах — стала адной з галоўных падзей цяперашняй выбарчай кампаніі. Непасрэдна Мюнтэферынг абвінаваціў калегу ў тым, што ён абсалютна не падрыхтаваўся да правядзення сур'ёзнай кампаніі. «У Штайнбрука няма кампаніі», — сумна канстатаваў Мюнтэферынг. Такія словы, відавочна, не спрыяюць энтузіязму эсдэкаў, чый рэйтынг і так самы нізкі за ўсю гісторыю партыі (каля 25 працэнтаў). Штайнбрук паспрабаваў супакоіць партайгеносэ, арганізаваўшы прэс-канферэнцыю, на якой заклікаў трактаваць словы Франца Мюнтэферынга як частку ўнутрыпартыйнай дыскусіі. «Трэба змагацца да апошняй хвіліны», — кажа кандыдат і іншыя мясцовыя лідары партыі. Між тым, сэнс барацьбы ўсё больш не зразумелы. Паводле апытанняў, усё ідзе да таго, што эсдэкі не змогуць разам з Зялёнымі, у якіх папулярнасць 13–14 працэнтаў, сфармаваць кааліцыю. Такая статыстыка, зразумела, выклікае ў эсдэкаў апатыю. Тым больш, што ў прэсе зноў гуляюць чуткі пра тое, што Ангела Меркель можа прапанаваць Зялёным месца ва ўрадзе.



▸ ГІСТОРЫЯ ЗЛАЧЫННАСЦІ

# ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ МАФІЯ. ВУЧАНЬ АЛЬ КАПОНЭ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Вільня — неафіцыйная сталіца Заходняй Беларусі ў міжваеннае дваццацігоддзе — была адным з найбольш небяспечных крымінагенных месцаў Другой Рэчы Паспалітай.**

У артыкуле «Вялікія камбінатары з Заходняй Беларусі» я ўжо расказваў пра дзейнасць рознага кшталту аферыстаў, ашуканцаў і проста не чыстых на руку людзей, якія пражывалі на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў міжваеннай Польшчы. Але гэта не ідзе ў параўнанне з маштабамі злачыннай дзейнасці, якую разгарнула ў міжваеннае дваццацігоддзе віленская мафія. У 1920–1930-я гады злачынцы са старажытнай сталіцы былога Вялікага Княства Літоўскага прымушалі літаральна хадзіць на вушах польскую дзяржаўную паліцыю.

## За царскім часам

Пачыналася гісторыя заходнебеларускай мафіі яшчэ ў Расійскай імперыі, калі ў студзені 1911 года два сябрукі Сашка Ліхтштэйн і Арон Войцік стварылі арганізацыю, кшталту прафсаюза злачынцаў. Планавалася, што гэтая структура будзе дапамагаць сябрам шаек у «цяжкіх» сітуацыях. Але ўжо ў 1913 годзе «Bruderferajn» (братэрскі саюз — ідыш), як называлася таямнічая арганізацыя, ператваралася ў моцную мафіёзную структуру, якая кантралявала дзейнасць злачынцаў не толькі ў Вільні, але і ў іншых гарадах і мястэчках Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.

Агульная каса саюза называлася знаёмым па сучасных расійскіх крымінальных серыялах словам «абшчак». Грошы атрымлівалі не толькі з нападаў на крамы і рэстараны, але і з выкупаў за скрадзеных людзей. Дзеля дасягнення сваіх мэтаў віленскія злачынцы не спыняліся ні перад чым, выкарыстоўваючы не толькі агнястрэльную зброю, але і выбухоўку.

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны з Вільні пачалі з'язджаць багатыя прадпрымальнікі. Ад аднаго з іх злачынцы пачалі вымагаць тры тысячы залатых рублёў. Такім, па іх меркаванні, быў кошт магчымасці выехаць далей ад фронту. Але прадпрымальнік не пажадаў плаціць і заявіў у паліцыю. Праца органаў расійскага праваапарадку ў гэты час была паралізаваная. Затрымаць злачынцаў не ўдалося. А тыя замініравалі і ўзарвалі дом прадпрымальніка. Бізнэсовец і яго сын былі цяжка параненыя. Убачыўшы гэта, іншыя заможныя жыхары Вільні не спрачаліся з «Bruderferajn» і плацілі столькі, колькі ад іх патрабавалі.



Патаемны знак — два кольцы, якім злачынцы папярэджвалі сваіх: у доме няма чаго браць



Ператрус пад час паліцэйскай аблавы, 1920-я гады



Вільня. Дагляд паліцэйскімі падазронага на вуліцы, 1930-я гады



Сын уладальніка ламбарда Лейбовіча пасле вызвалення за выкуп з бандыцкага палону, 1932 год

## Супрацьстаянне з польскай паліцыяй

З 1915 па 1918 гады Вільня знаходзілася пад нямецкай акупацыяй. Пазней улада ў горадзе змянялася некалькі разоў, пакуль у 1922 годзе старажытная сталіца ВКЛ не ўвайшла ў склад Другой Рэчы Паспалітай. У 1925 годзе было створана Віленскае ваяводства. Увесь гэты час «браткі» з Вільні займаліся звыклай для іх дзейнасцю. У гэты момант у «Bruderferajn» уваходзіла каля 1000 злачынцаў з усёй Заходняй Беларусі. Менавіта ў гэты час у польскі крымінальны лексікон з рускай мовы перайшлі паняцці «блатны» і «вор у законе», якіх да гэтага ў Еўропе не было. Польскія каранаваныя злодзеі, хоць і жылі ўжо ў іншай дзяржаве, працягвалі карыстацца ў прамым і пераносным сэнсе паняцціямі, распаўсюджанымі ў Расійскай імперыі. Адзінай адметнасцю было тое, што, у адрозненне ад калег з усходу, польскія злодзеі маглі працаваць і мець свой бізнэс.

Хутка была створана канцылярыя «Bruderferajn», якую ўзначальваў усё той жа Сашка Ліхтштэйн, які зараз карыстаўся псеўданімам Хана Бобкес. У распараджэнні віленскіх «браткоў» была падрабязная картатэка ўсіх багатых прадпрымальнікаў ваяводства, вяліся бухгалтарскія кнігі. Грашовыя сродкі трымаліся ў спецыяльным сейфе. У «абшчак» ішлі не толькі грошы ад выкупаў, але і працэнт ад кожнага ўдалага злачынства. Гаворка ішла пра фантастычныя сумы. З гэтых сродкаў у выпадку арышту чальцоў шаек іх сем'ям выплачвалася грашовая дапамога. Акрамя гэтага, з «абшчака» браліся грошы на хабары для паліцыі і прадстаўнікоў юстыцыі, а таксама падтрымліваліся вязні ў турмах.

У сярэдзіне 1920-х гадоў адмысловы мафіёзны суд, які дзейнічаў у нетрах «Bruderferajn», прысудзіў да смерці аднаго са злодзеяў, якога звалі Элька Гурвіч. Гэты чалавек адмовіўся гуляць па правілах віленскай «братвы» і за гэта быў забіты. Паплечнікі забітага вырашылі адпомсціць віленскай мафіі і злілі інфармацыю пра яе супрацоўнікам дзяржаўнай паліцыі.

У ананімных лістах, дасланых у органы праваапарадку, апісвалася структура злачыннай арганізацыі, а галоўнае — яе планы. Хутка ўсё кіраўніцтва «Bruderferajn» было арыштавана. У 1924 годзе адбыўся суд, аднак Сашка Ліхтштэйн і Арон Войцік атрымалі ўсяго па некалькі гадоў зняволення. У ход пайшоў прыхаваны «абшчак», на грошы з якога ўдалося наняць добрых адвакатаў.

Выйшаўшы на свабоду ў пачатку 1930-х гадоў, салодкая парачка пачала помсціць тым, хто іх здаў паліцыі. У лютым 1932 года на чале новай банды «Залаты штандар», якая з'явілася на руінах «Bruderferajn», стаў выхадзец з Валожына Зеліг Левінсан. Злачынцы ажыццяўлялі напады на польскія банкі, Касы Стэфчыка, паштовыя вагоны польскай чыгункі на тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі. Нарэшце, «Залаты штандар» выкраў 8-гадовага сына аднаго з найбольш багатых жыхароў Вільні, уласніка ламбарду «Крэсовія» па прозвішчы Лейбовіч. Зеліг Левінсан запатрабаваў за жыццё хлопца 14 тысяч злотых. Гэта была вельмі значная сума, але бацька скрадзенага сабраў грошы. Навіна пра кіднэпінг паставіла на вушы ўсю Польшчу. Паліцыя працавала і днём і ноччу. І тут зноў важную ролю згуляла канкурэнцыя сярод злачынцаў. Паліцыя атрымала ананімны ліст, у якім пазначалася, хто адказвае за кіднэпінг. Хутка шайка была разбітая, а яе чальцы арыштаваныя.

## Сябра Аль Капонэ

Ужо падчас следства высвеціліся вельмі цікавыя падрабязнасці. Аказалася, што ідэю скрасці сына багатага бізнэсоўца віленскай братве падкінуў Берэк Кравец, што прыехаў са Злучаных Штатаў. У свой час гэты чалавек быў членам «Bruderferajn». Пазней эміграваў у Чыкага і хутка ўступіў у мафію знакамітага Аль Капонэ. Легенда амерыканскіх гангстараў адразу разгледзеў у маладым чалавеку, які прыехаў з Заходняй Беларусі, сапраўднага генія, здольнага да распрацоўкі вельмі ўдалых злачынных схем.

Калі паліцыя ЗША трапіла на след банды Капонэ, Кравец вырашыў вярнуцца ў Вільню. Досвед, атрыманы за акіянам, злачынца паспрабаваў прымяніць дома. Аднак банда, якую кансультаваў «амерыканец», была разбітая, а самога эмігранта абвясцілі ў вышук. Спачатку Кравец хаваўся ў вёсцы пад Пінскам, пазней перабраўся ў Заходнюю Украіну. Там ён пераапрануўся ў парадны мундзір ротмістра 12-га палка падольскіх уланаў Войска Польскага і такім чынам ратаваўся падчас праверкі дакументаў.

Супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі пастаянна рабілі аблавы і дзяжурылі ў партах і на чыгуначных вакзалах. Пра Берэка Краўца быў праінфармаваны Корпус аховы памежжа і «Страж памежны». У Роўна «амерыканец» пераапрануўся ў рамізніка і спакойна ездзіў на двухколцы, няглядзячы на тое, што паліцыя правярала дакументы амаль у кожнага мужчыны на вуліцы.

Кравец разумеў, што яму трэба хутчэй пакінуць тэрыторыю Польшчы. У Крамянцы госць з ЗША апрануўся ў скрадзены мундзір старшага патрэрункавага дзяржаўнай паліцыі і нават удзельнічаў у аблаве… на самога сябе. Нарэшце ў Станіслававе паліцыя атрымала інфармацыю пра тое, у якім раёне знаходзіцца злачынца, і блакіравала ўсе выхады з яго. Але і гэта не дапамагло. Кравец схаваўся ў адной з трун, якія перавозілі са сталярнай майстэрні, і праехаў незаўважаны праз паліцэйскае ачапленне. Праз Карпаты гангстар перабраўся ў Румынію, а адтуль у ЗША. На гэтым сляды Берэка Краўца губляюцца.

Другая Сусветная вайна перакроіла мапу Еўропы і змяніла лёсы яе жыхароў. Шмат з былых польскіх злачынцаў змагаліся супраць нацыстаў у партызанскіх атрадах. Іншыя, як, напрыклад, Зеліг Левінсан, сталі ахвярамі халакосту. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, шмат з польскіх злачынцаў былі пераведзены з былых польскіх турмаў у распараджэнне Мінскага НКУС і ўтрымліваліся ў Валадарцы. У рускай блатной іерархіі нават з'явілася катэгорыя «польскі вор», але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

**Больш унікальных фотаздымкаў — на нашым сайце: novychas.info**

ГАДАВІНА

# Алесь Петрашкевіч: «Я ХАЧУ ВЯРНУЦЬ САПРАЎДНУЮ ГІСТОРЫЮ»

Сяргей ШАПРАН

**Год таму, 24 жніўня, сышоў з жыцця Алесь (Аляксандр Лявонавіч) Петрашкевіч — беларускі гісторык, драматург і сцэнарыст. Але засталося яго слова.**



Гэта інтэрв'ю ніколі не друкавалася. 1 мая 2005 года Алесю Петрашкевічу споўнілася 75 гадоў. Па шчырасці, я не збіраўся рабіць з ім ніякіх юбілейных інтэрв'ю найперш з-за занятасці кнігай пра Васіля Быкава, але было адчуванне няёмкасці, бо з Петрашкевічам быў знаёмы не першы год і неаднойчы ўжо друкаваў гутаркі з ім.

Таму, адклаўшы працу над кніжкай, усё ж пазваніў, але толькі праз дзесяць дзён. Алесь Лявонавіч, як падалося, да ідэі інтэрв'ю паставіўся без асаблівай ахвоты, запытаўся, пра што яно будзе? — «Пра тое, над чым працуеце, на што спадзеяцеся». Петрашкевіч у адказ: «Гэта вельмі складанае пытанне — на што спадзяюся… Гэта ж будуць кароткія пытанні і адказы?..» Дамовіліся, што ўвечары буду ў яго. Алесь Лявонавіч дадаў яшчэ, што з юбілеем яго павіншавалі толькі часопіс «Роднае слова» і газета «Наша слова», афіцыйныя змаўчалі. «Мяне няма ў іх календары, — пажартаваў Петрашкевіч. — Відаць, я ў іх толькі ў спісах».

Інтэрв'ю хоць і было зроблена (Алесь Лявонавіч пазваніў на наступны дзень — сказаў, што, відаць, шмат лішняга нагаварыў, але я адказаў, што ў тым, сярод іншага, і сутнасць маёй працы — каб выбіраць з гутаркі галоўнае), аднак на старонках «Белорусской деловой газеты» не выйшла — мне было прапанавана скараціць яго ўдвая, я адмовіўся ад публікацыі наогул.

Калі Петрашкевіч дазнаўся пра тое, сказаў, што я ўсё правільна зрабіў, дадаў таксама, што абсалютна не крыўдуе. Аднак адчуванне няёмкасці засталося. Таму з таго часу Алесю Лявонавічу я больш не званіў і ніколі з ім ужо не бачыўся.

Ніжэй падаецца не толькі тое інтэрв'ю, што было завізавана Петрашкевічам, але і вытрымкі з нашай гутаркі, якія ў канчатковы варыянт інтэрв'ю не патрапілі.

***— Алесь Лявонавіч, як гэта — пісаць, калі п'есы не ставяць? Драматургія ж не існуе без тэатра.***

— Мяне гэта не хвалюе. Гавару гэта абсалютна шчыра. Гэта нават добра. Вось такі парадокс! Бо калі пішаш, разважаючы, куды пасля панясеш п'есу, тым самым шмат чым звязаны, пакольки, свядома ці не, раздумваеш над пытаннямі: а ці возьмуць? ці дазволіць цэнзура? «не переборщил ли?..» А калі пішаш, не спадзеючыся, што будзе пастаўлена, ты абсалютна вольны — вольны найперш ад усялякай мітусні. Ды і драматургія як жанр літаратуры можа існаваць і без тэатра.

***— Аляксандр Твардоўскі гаварыў, што літаратура павінна ствараца ў свой час. Вашай драматургіі гэта не датычыцца?***

— У мяне спецыфічнае пісьмо — я рэканструюю гісторыю, але па ўсіх правілах літаратурнага жанру. За дваццаць гадоў я стварыў мастацкі варыянт гісторыі Беларусі ў дзеючых асобах: ад Рагнеды да Янкі Купалы. Я ажывіў нашу гісторыю. Так, сёння мае п'есы не запатрабаваныя, аднак неабходнасць у іх з'явіцца заўтра, калі ўсур'ёз будзе пастаўлена пытанне пра незалежную дзяржаву, бо ў суверэннай дзяржавы павінен быць гістарычны фундамент. Усё ж не з 1917 года пачалася наша гісторыя! І не «тутэйшыя» тут жылі — «тутэйшымі» нас зрабілі абставіны. Зыходзячы ж з маіх п'ес, можна будзе прасачыць, як і чаму мы такімі сталі. Паводле іх можна будзе вялікі гістарычны серыял зняць! І такі серыял пэўна будзе, хай нават не па маіх п'есах — гэта ўжо не так істотна. Даволі будзе таго, калі мая драматургія абудзіць чыюсьці творчую фантазію, пасее ідэю.

***— І не шкада, што не дачакаецеся такога серыяла?***

— Разумееце, буду я шкадаваць ці не — ад гэтага нічога не зменіцца. Ці пра гэта трэба думаць, калі табе 75?

***— У маладосці прызнання хочацца шмат каму. А ў 75?***

— Прызнанне ў любым узросце — рэч, вядома, прыемная. Але зусім не абавязковая. Хоць крыкі: «Аўтара на сцэну!»… Чалавек слабы… Аднак мяне ж у Беларусі не так добра ведалі нават тады, калі мае п'есы ставіліся ў сямідзесяці гарадах Савецкага Саюза!

Наогул, я лішні раз пераконваюся: не трэба чакаць ухвалы і прызнання — трэба проста рабіць сваю справу. Хоць часта можна пачуць папрокі ў адрас пісьменніцкай брацii і наогул інтэлігенцыі: маўляў, яна інертная, далёкая ад жыцця, не ўдзельнічае ў бурных і важных для краіны падзеях. У гэтым, на мой погляд, праяўляецца неразуменне ролі інтэлігенцыі ў грамадскім працэсе. Не трэба ад пісьменнікаў чакаць, каб яны беглі на барыкады! Не трэба ўпікаць, што яны не ходзяць на мітынгі хоць бы таму, што калі нехта з іх патрапіць на Акрэсціна, дык жывымі яны адтуль ужо не выйдуць — гэта калі пакінуць іх на адну ноч без лекаў. А па-другое, пісьменнікі ўсё ж назіраюць за жыццём крыху збоку, асэнсоўваюць яго і параўноўваюць з тым, што ўжо было, знаходзячы пры гэтым аналогіі і паўтарэнне гісторыі то ў выглядзе трагедыі, то ў выглядзе фарса. Тыя гістарычныя жарсці, якія неаднойчы кіпелі на нашай зямлі, абсалютна не саступаюць таму, што апісваў Шэкспір! Але Шэкспір шмат што прыдумаў, а ў беларускай гісторыі можна знайсці столькі сюжэтаў, што паўстане іншая праблема — чаму аддаць перавагу, пра што напісаць? Мне здаецца, што ў гэтым і заключаецца сэнс пісьменніцкай працы: аналізуючы і ўзнаўляючы карціну мінулага, праектаваць яе на сённяшні дзень. «Усё ўжо было», — сказана ў Біблii. Няшчасце ў тым, што людзі мала чаму вучацца ў гісторыі.

***— Тым не менш на мітынгі Вы ж хадзілі?***

— І дасюль здараецца, што хаджу. Але хаджу найперш з-за цікавасці — а што, калі ўбачанае нейкім чынам мне, як драматургу, пасля спатрэбіцца? Гістарычныя ж аналогіі можна знайсці ва ўсім.

***— Святлана Алексіевіч, калі яшчэ была журналістам, але ўжо працавала над першай сваёй кнігай, толькі з часам зразумела, што ж павінна стаць галоўнай справай яе жыцця. І вымушана пакінуўшы журналістыку, прысвяціла сябе дакументальнай літаратуры. Ці пагодзіцеся з тым, што ў Вашым выпадку такой справай стала гістарычная драматургія?***

— Безумоўна. Хоць я, вядома, «запозненый» пісьменнік — першую п'есу напісаў, калі мне было ўжо за сорак. Але, ведаеце, няшчасця ў тым няма.

***— А шкадаванне?***

— Шкадаванне ёсць, бо цяпер і гады не тыя, дый здароўе… Пачні раней, я больш паспеў бы. Да таго ж трэба было яшчэ і на жыццё зарабляць. Па вечарах і начах пісаў п'есы, а раніцай ішоў на працу. Ні ў кога з савецкіх пісьменнікаў не было сваёй «Яснай Паляны»! Вось і трэба было рабіць шмат непатрэбнай працы.

Хоць не скажу, што праца ў «Беларускай энцыклапедыі» была без карысці — гэтая праца якраз была па душы, таксама як і праца над ста тамамі гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць». Дый ці здолеў бы я напісаць свае гістарычныя п'есы, калі б не прачытаў кожны энцыклапедычны том па тры разы?!

Зусім іншая справа — камсамольска-партыйная праца. Колькі ж я гадоў на яе страціў?.. Божа мой, амаль сямнаццаць! Шкадаваць пра тое?.. Але затое я бачыў, што, напэўна, мала каму вядома. Не выключаю, што гэтыя веды дапамогуць мне напісаць яшчэ адну п'есу…

Ды і тое, што было, тое ўжо было. Можна толькі дзякаваць лёсу, што, хай са спазненнем, але мне давялося зразумець, у чым жа яна — мая галоўная справа. Такая справа была ў Васіля Быкава, ёсць яна ў Святланы Алексіевіч, Уладзіміра Арлова, Сяргея Законнікава. Ну, не будзем адставаць ад іншых! (Смяецца.) Праўда, тыя ж Алексіевіч і Арлоў — больш шчаслівыя ў гэтым сэнсе пісьменнікі — яны бачаць свае кнігі. Апошнюю ж маю кнігу — зборнік, складзены з дзесяці гістарычных п'ес, «Здрапежаная зямля» — я выдаў у колькасці 250 экземпляраў за ўласную пенсію.

***— Відаць, Вы не надта шчаслівы чалавек — Вашыя п'есы не ставяцца, а Вашай пенсіі наўрад ці хопіць на наступную кнігу…***

— Так, я ўжо даўно напісаў кнігу ўспамінаў, але выдаваць яе сам наўрад ці ўжо буду — для гэтага ніякай пенсіі не хопіць! Тым не менш я, напэўна, здамся вам дзіваком, бо ўсё роўна шчаслівы. Шчаслівы хоць бы таму, што тая ж «Здрапежаная зямля» атрымала такія высокія водгукі, што я і сам паверыў у тое, што напісаў добрую рэч! (Смяецца.) Гэта, дарэчы, і было тое прызнанне, пра якое вы раней пыталіся.

***— Драматург Мікалай Матукоўскі незадоўга да смерці выказаў шкадаванне, што не напісаў п'есу пра Ісуса Хрыста. Ці ёсць у Вас тэма, да якой Вы дасюль не наважыліся падступіцца?***

— Адна фантазія ў мяне ёсць: я хацеў бы напісаць фантасмагорыю, у якой, сабраўшы ўсіх сваіх герояў, наладзіў бы ім Вышэйшы суд. Мяркую, гэта было б лагічнае заканчэнне майго цыклу гістарычных п'ес. І гэта была б мая апошняя п'еса.

**Адна фантазія ў мяне ёсць: я хацеў бы напісаць фантасмагорыю, у якой, сабраўшы ўсіх сваіх герояў, наладзіў бы ім Вышэйшы суд**

Аднак сёння я хачу часова адысці ад гістарычнай тэматыкі. Як вядома, драматургу лепей адпачываць на сатыры, але ў дадзеным выпадку я хацеў бы напісаць п'есу на сучасную тэму, сюжэт якой быў бы ўзяты з найноўшай гісторыі.

***— Такім чынам, Вы па-ранейшаму за пісьмовым сталом? Дарэчы, размовы: тая ж Алексіевіч лічыць, што час барыкад мінуў — кожны павінен займацца сваёй справай, а калі ўсе будуць рэвалюцыянерамі, дык хто будзе шыць боты пасля таго, як рэвалюцыя ўжо адбудзецца?***

— О, калі б я гэта сказаў — было б вельмі добра! (Смяецца.) А так проста пагаджуся з гэтым. Хай пісьменнікі пішуць, каб было што ў далейшым, пасля рэвалюцыі, чытаць. Тым больш, што час для таго, каб пісаць, надта ўжо спрыяльны. Добрая літаратура заўсёды нараджалася ў цяжкія часы. Ці вы думаеце, што пяцьсот сябраў Саюза пісьменнікаў нічога не робяць?! Працуюць людзі! І добрая літаратура абавязкова будзе…

Цікавасць да гістарычнай тэматыкі абудзіла ў мяне адна публікацыя. Я тады вывучаў польскую мову, і ў газеце «Tribuna lude» прачытаў наступнае: пасля таго, як Княства Літоўскае, а, значыцца, і Польшча, было раскрыжавана і ліквідавана як дзяржава, польская інтэлігенцыя напаўлегальна сабралася, каб вырашыць, што яна павінна зрабіць, каб не памерла польская нацыянальная ідэя. І гэты сход прыняў простае, але мудрае рашэнне: трэба стварыць польскую рамантычную гісторыю. І палякі яе стварылі, забраўшы нашую гісторыю. Таксама, дарэчы, як і літоўцы. Яны стварылі сваю гісторыю — вельмі захапляльную, што і зафіксавала нацыянальную ідэю. Па-другое, яны вырашылі стварыць рамантычную польскую гістарычную літаратуру — вось адкуль пайшоў Сенкевіч і астатнія. Менавіта тады я і вырашыў: напішу 11 п'ес — на кожнае стагоддзе па п'есе. Праўда, цяпер ужо атрымліваецца 17…

У гісторыі заўсёды былі трагедыі, прычым вялікага напалу. Але такіх трагедый, якія дало XX стагоддзе, у гісторыі яшчэ не было. Нават у XIX стагоддзі — нягледзячы на паўстанні 1831 і 1863 гадоў. У XX стагоддзі таксама былі паўстанні — тое ж Слуцкае 1920 года, лозунгам якога было: «Без польскага пана і без маскоўскага камісара!». Бачыце, якія жарсці! А тая ж Айчынная вайна, партызанскі рух — гэта ўсё небывалыя трагедыі, небывалыя. Іх можна параўнаць, бадай, толькі з нашэсцем на Княства Літоўскае цара Аляксея Міхайлавіча, калі былі знішчаны 52 адсоткі мясцовага насельніцтва. Мільён васемсот тысяч!..

Я прасачыў гэтыя рэчы з адной толькі мэтай — вярнуць чытачу гістарычную памяць. У Беларусі, як нідзе болей, не ведаюць сваю гісторыю. Гісторыя тут падменена, фальсіфікаваная. Яна напісана з пазіцый імперскіх, бальшавіцкіх, з сённяшняга расійскага пункту гледжання. Гэта не наша гісторыя — у нас была абсалютна іншая гісторыя! Гісторыя вечнай аховы ад агрэсіі як з Захаду, так і з Усходу, але найчасцей — з Усходу.

Беларус усё жыццё змагаўся за сваю незалежнасць. Таму і былі бясконцыя, бесперапынныя войны. Спачатку татарскія набегі, потым татара-рускія, бо царскія войскі ў XV—XVI стагоддзях нападалі на Беларусь найчасцей у саюзе з татарамі. Пасля быў Кацярынінскі падзел — тройчы дзялілі нашую зямлю, паэтапна яе асвойвалі і гвалтоўна далучалі да Масковіі. А мы сёння кажам вучням пра добраахвотнае ўваходжанне Беларусі!..

## ВІНШУЕМ СА СВЯТАМ!

**1 верасня 2013 года нацыянальнаму святу «Дзень беларускага пісьменства» — 20 гадоў.** Свята адзначаецца з 1994 года ў першую нядзелю верасня. За гэты час свята адбылося ў 17 беларускіх гарадах.

Сакратарыят ТБМ прапануе ва ўсіх беларускіх гарадах, дзе раней адбылося свята, з верасня гэтага года адкрыць беларускамоўныя першыя класы і на іх базе з часам стварыць беларускамоўныя гімназіі, як асяродкі нацыянальнай мовы і культуры. І заклікае ўлады Быхава, дзе 1 верасня адбудзецца свята, адкрыць у горадзе беларускамоўную гімназію і стаць прыкладам для іншых беларускіх гарадоў.

### АБ'ЯВА

## ПУБЛІЧНЫЯ ЛЕКЦЫІ «URBI ET ORBI»

**27 жніўня** Лятучы ўніверсітэт запрашае на публічную лекцыю вядомага славіста, **прафесара** Брандайскага ўніверсітэта (ЗША) **Курта Вулхайзера.**

На матэрыяле шматгадовых даследаванняў, вынікаў сацыялагічных апытанняў лектар прапануе разгледзець шэраг сацыялінгвістычных паралеляў паміж беларускай і шатландскай мовамі, пачынаючы ад іх гістарычнага развіцця да агульных тэндэнцый у сучаснасці.

На думку амерыканскага славіста, такі аналіз падабенства і розніцы ў сучасным становішчы беларускай і шатландскай моваў прыводзіць да цікавых высноваў, якія маглі б быць карыснымі для прыхільнікаў беларускай мовы і іх шатландскіх партнёраў пры распрацоўцы на будучыню эфектыўных стратэгіяў моўнага менеджменту.

**Лекцыя «Амбівалентныя нацыянальныя мовы: чым беларуская падобная да шатландскай»** адбудзецца 27 жніўня ў Галерэі Ў. Пачатак а 18.30. Уваход вольны!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1014

Падпісана да друку 23.08.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча